

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 31 (4934) 4 жніўня 2017 г.



# 500 = БЯСКОНЦАСЦЬ




*Кніга «Сусветная спадчына Францыска Скарыны» створана па замове Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».*

**6 жніўня 1517 года. Прага. Можна ўзяць у рукі асобнік кнігі — і лічыць сябе пераможцам. Ужо хоць бы таму, што гэты першы асобнік «Псалтыра» так ці інакш стане гісторыяй: на яго радзіме такога пакуль ніхто не зрабіў… Ці думаў ён, што робіць гісторыю? Альбо гісторыя ствараецца менавіта тады, калі ёсць асобы, што, не зважаючы на абставіны і спрыяльнасць ці неспрыяльнасць умоў, робяць тое, чаго патрабуе час? Час, згодна з якім жыве свет, па якім існуе Еўропа. Які раствараецца на стрэлках гадзінніка недзе там, дзе імгненне дало пачатак жыццю. Ён не прыспешвае час, ён фіксуе развіццё, пераадольваючы несупадзенне. Змог, і свет з гэтым пагадзіўся: 500-годдзе беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання пацверджана рашэннем ЮНЕСКА аб уключэнні юбілею ў каляндар памятных дат міжнароднай арганізацыі.**

Працяг на стар. 4 ►

# +100: СЛОВЫ ПРА ЯНКУ БРЫЛЯ

«Пішу як жыву», — прызнаваўся Янка Брыль у адной з кніг. І менавіта так называецца выстаўка, падрыхтаваная Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва, дзе прадстаўлены ўнікальныя матэрыялы ў памяць пра народнага пісьменніка Беларусі. Сёння, 4 жніўня, — 100 гадоў з дня яго нараджэння, а напярэдадні ў галерэі «Універсітэт культуры» адбылася вечарына, дзе сабраліся літаратуразнаўцы і пісьменнікі, выдаўцы і архівісты, члены сям'і ды творчыя спадкаемцы, каб ушанаваць аднаго з тых творцаў, што шчыраваў на ніве беларускай літаратуры шмат гадоў. У розныя гады Янка Брыль працаваў намеснікам рэдактара часопісаў «Маладосць» і «Полымя», рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі, з'яўляўся сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Яго творы прыходзілі да чытача ў тым ліку праз газету «ЛіМ».

Унікальны жыццёвы досвед падказваў Янку Брылю тэмы для твораў: жыццё ў Заходняй Беларусі, ваенныя падзеі (сярод якіх палон, уцёкі і партызанскае жыццё), землякі, простыя людзі з няпростым лёсам і жыццёвай мудрасцю. Ён аўтар апавяданняў і аповесцяў, раманаў і кніг лірычных мініяцюр, вядомы як перакладчык — гэтыя кірункі яго творчасці мы пастараліся адлюстраваць у сённяшнім нумары. А таксама нагадаць пра чалавека, які ў складаны час здолеў быць сумленным перад жыццём. Сёння мы знаёмім з часткай багатага фотаархіва, дакументаў, што прадаставіў для гэтага выпуску Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.

Працяг тэмы на стар. 7 — 13 ►



*Янка Брыль, 1987 г. Фота У. Крука.*

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку СССР Эдзіту П'еху. «Дзякуючы яркай індывідуальнасці і шчырай любові да музыкі Вы заваявалі сэрцы мільёнаў прыхільнікаў, а песні ў Вашым выкананні ўвайшлі ў залаты фонд савецкай і расійскай эстрады», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ў Беларусі Эдзіту П'еху ведаюць як таленавітую і абаяльную спявачку, якая валодае бездакорным музычным густам, высокім узроўнем сцэнічнага майстэрства.

✔ Рэспубліканскі конкурс сцэнарыяў фільмаў у ігравой форме «Мая Беларусь» пройдзе з 15 верасня па 15 снежня. Конкурс адкрыты і ладзіцца па намінацыях: «Гісторыя Беларусі», «Нацыянальныя героі», «Жыццё сучаснай Беларусі», «Моладзь Беларусі». Мэта творчага спаборніцтва — адбор высокамастацкіх сцэнарыяў пра гісторыю нашай краіны, нацыянальных герояў, жыццё сучаснай Беларусі і беларускай моладзі, а таксама пошук і падтрымка таленавітых аўтараў.

✔ Аўтобусна-пешаходную экскурсію «Мінскія адрасы Якуба Коласа» арганізуюць 14 жніўня, у дзень памяці паэта, супрацоўнікі музея песняра. Падарожжа па месцах, звязаных з яго імем, дапаможа глыбей спазнаць жыццё класіка: Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Мінскі астрог, БДУ, плошча Якуба Коласа, дом на Старажоўцы, Цэнтральны дзіцячы парк імя М. Горкага... Апошні пункт маршруту — Ваенныя могілкі, дзе адбудзецца памінальны мітынг і ўскладанне кветак да магілы песняра.

✔ Аб'яўлены конкурс песні цырымоніі адкрыцця і закрыцця II Еўрапейскіх гульняў 2019 года ў Беларусі, які арганізуецца з 1 жніўня па 1 снежня. Песні павінны раскрываць тэмы яднання народаў, мірнага спартыўнага спаборніцтва, гасціннасці Беларусі, адлюстроўваць шчырасць і цеплыню краіны, якая прымае II Еўрапейскія гульні. Мэта конкурсу — выяўленне і падтрымка таленавітай моладзі, прыцягненне шырокага кола аўтараў да стварэння новых музычных твораў, якія грунтуюцца на нацыянальных матывах.

✔ Удзельнікаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Ізраіля збяруць у Лоеве 6 — 8 жніўня міжнародныя гісторыка-краязнаўчыя чытанні «Дняпроўскі паром». Мерапрыемства прысвечана гісторыка-культурнай спадчыне Сярэдняга Падняпроўя. У ім возьмуць удзел гісторыкі, археолагі, этнолагі, музейныя работнікі, выкладчыкі навучальных устаноў, краязнаўцы, мастакі ды інш. Будуць працаваць дзве секцыі: гістарычная і краязнаўчая. Па выніках чытанняў плануецца выдаць зборнік дакладаў.

✔ «Рыцарскі фэст», свята сярэднявечнай культуры, ладзіцца 4 — 6 жніўня ў Мсціславе. У праграме дзясятага фестывалю — мноства яркіх мерапрыемстваў, забаў. Арганізатары робяць усё магчымае для таго, каб форум прайшоў на высокім узроўні і стаў відовішчным, масавым і запамінальным. У Мсціслаў з'язджаюцца тысячы гледачоў з усіх куткоў Беларусі, Расіі ды іншых краін, каб акунуцца ў атмасферу даўніны, азнаёміцца з гісторыяй райцэнтра і навакольных земляў.

✔ Брэсцкія мытнікі перадалі ў філіял абласнога краязнаўчага музея старажытны абраз «Спас Уседзяржыцель» падчас урачыстай цырымоніі ў музеі «Выратаваныя мастацкія каштоўнасці». Перадача абраза на пастаяннае захоўванне ў музейны фонд адбылася па ініцыятыве Дэпартамента па гуманітарнай дзейнасці Кіраўніцтва справамі прэзідэнта па Брэсцкай вобласці. Экспанат папоўніць калекцыю рускага іканапісу XIX — XX стагоддзяў.

# Тут лунала душа Максіма



Фота Кастуся Дробава.

Гурт спявачак Студэнцкага этнаграфічнага таварыства.

**Ужо 40 гадоў мінула з таго часу, як фальварак Ракуцёўшчына стаў адметным месцам на літаратурнай карце Беларусі.**

Каб папіць вады з Максімавай крыніцы — трэба правільна назваць расліну. А каб пакатацца на возе, на якім, паводле легенды (але мы ў яе не паверылі) уладальніка, ездзіў яшчэ сам Багдановіч, варта толькі папрасіць кіроўцу. І калі ласка — вас пакатаюць задарма. Каб пачуць народную песню ў пераняатай ад носьбітаў манеры — дастаткова ўсміхнуцца спявачкам са Студэнцкага этнаграфічнага таварыства...

Ракуцёўшчына, гэтыя маляўнічыя мясціны на Маладзечаншчыне, нездарма вось ужо колькі гадоў прывабліваюць сваёй паэтычнасцю і неверагоднай чароўнасцю. Таму і фэст «Ракуцёўскае лета», які штогод ладзіцца ў фальварку, дзе сёння месціцца філіял Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, адрозніваецца неверагоднай душэўнасцю, шчырасцю і цеплынёй.

Тут, на Маладзечаншчыне, Багдановічу добра пісалася. У 1911 годзе паэт правёў лета на беларускай зямлі. Яго гасцінна прыняў у сваім маёнтку Вацлаў Лычкоўскі, дзядзька Антона і Івана Луцкевічаў. Мясціны неверагоднай чысціні і прыгажосці сталіся для паэта крынічай натхнення, новых уражанняў, а час, праведзены тут у сям'і шляхціца, — магчымасцю сустрэцца з радзімай, пагутарыць з беларусамі і палюбавацца прыродай. Здаецца, што і сёння, у аднаўленым доміку арандатара, які паўтарае той будынак, што паэт наймаў на сядзібе, можна адчуць неверагодную атмасферу творчага пошуку.

Музеефікацыя гэтых мясцін пачалася ў 1977 годзе, калі на ўспамін аб гасцяванні паэта ў фальварку было ўстаноўлена два валуны. Праз чатыры гады непадалёк вырас «Максімаў сад», пасаджаны паэтамі, а ў 1994 годзе адчыніў дзверы для наведвальнікаў філіял Літаратурнага музея паэта.

Максімавы мясціны не могуць не зачароўваць. Тут шумяць дрэвы, бруіцца крынічка, каля якой любіў бавіць час паэт, а самі будынкі музея нібыта пераносяць нас у часе на стагоддзе таму. Сюды на свята і проста па натхненне завітваюць паэты, музыкі з розных куткоў Беларусі, гучаць беларускія песні, вершы. І гэта неабавязкова творы Максіма ці прысвячэнні яму. Па завядзёнцы натхненне тут шукаюць і мастакі: непадалёк ад цэнтральнай сцэны святкавання разгортваецца пляцоўка для пленэру. Вось і сёлета адмысловымі гасцямі «Ракуцёўскага лета» сталі пісьменнікі Анатоль Бутэвіч, Навум Гальпяровіч, Валянціна Гіруць-Русакевіч, Міхал Бараноўскі, Віктар Лупасін. Народнымі песнямі аздобілі свята выдатныя спявачкі са Студэнцкага этнаграфічнага таварыства.



Паэтэса Валянціна Гіруць-Русакевіч.

**Марына ВЕСЯЛУХА**




### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**10 жніўня** — *на творчую сустрэчу з Таццянай Цехнявбедзінай у межах акцыі «Лета з добрай кнігай» у грамадзянска-патрыятычны лагер Узддзенскага раёна. Пачатак а 10-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**7 жніўня** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Вольгай Русілкай у кніжную краму «Асвета» (г. Віцебск). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**7 жніўня** — *на Дзень беларускай народнай гульні з удзелам Кацярыны Сосны ў межах акцыі «Лета з добрай кнігай» у лагер адпачынку «Летняя вясёлка» СШ № 2 г. п. Шаркаўшчына. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**7 жніўня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Фёдарам Палачаніным у межах акцыі «Лета з добрай кнігай» у раённы лагер «Выток» Докшыцкага раёна. Пачатак а 10-й гадзіне.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**4 жніўня** — *на літаратурную вечарыну «Думаючы пра вечнае — бачыць штодзённае» з удзелам пісьменніка Міколы Леўчанкі, якая прысвячаецца 100-годдзю з дня нараджэння пісьменніка Янкі Брыля. Імпрэза адбудзецца ў бібліятэцы-філіяле № 49, у мікраараёне Быхаў-1, у г. Быхаве. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**10 жніўня** — *на сустрэчу з членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Марынай Сліўко і членамі літаратурнага аб'яднання «Магістраль» у аздараўленчы лагер «Дубравенка» (Магілёўскі раён, Шклоўская шаша, аздараўленчы лагер «Дубравенка»). Час правядзення мерапрыемства — 16.00 — 19.00.*

# НАВУКОЎЦА, АСВЕТНІК, «ЛІЦВІН»

## Гадавіну з дня нараджэння Ігната Дамейкі адзначылі ў Мінску разам з яго нашчадкамі

**Часам лёс бывае непрадказальны: трагічныя вынікі паўстання 1830 — 1831 гг. падштурхнулі магістра філасофіі і матэматыкі Ігната Дамейку да вывучэння сельскай гаспадаркі, эміграцыі, навучання ў французскай Горнай школе і захаплення навуковымі даследаваннямі ў сферы геалогіі і мінералогіі. Шлях з маёнтка ў вёсцы Мядзвядка да сталіцы Чылі Сант'яга стаў шляхам да самавыяўлення, раскрыцця ўсіх здольнасцяў і працы на карысць людзям. Праз служэнне чылійцам — да служэння чалавецтву, і, як вынік, імя Беларусі дасюль гучыць разам з імем яе вялікага сына на іншым кантыненце. Не забыты славуты навукоўца і на сваёй радзіме.**

— Беларуская зямля дала свету шмат выдатных паэтаў і пісьменнікаў, мастакоў і кампазітараў, палітыкаў і навукоўцаў, хай нават і не для ўсіх відавочна, што менавіта тут, на Беларусі, знаходзіцца іх радзіма, — адзначыў міністр замежных спраў Уладзімір Макей. — Дзякуючы такім людзям, як І. Дамейка, быў закладзены падмурак нашай нацыянальнай ідэнтычнасці, стала магчымым фарміраванне беларускай нацыі напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Ігнат Дамейка, выбітны навукоўца, праславіў Беларусь сваім талентам, адданасцю навуцы і надзвычай шырокай сферай навуковых інтарэсаў і дасягненняў.

Сёлета святкуюць 215-годдзе з дня нараджэння Ігната Дамейкі. Адзначыць гадавіну славутага продка ў Міністэрства замежных спраў Беларусі завіталі яго нашчадкі з Аўстраліі, ЗША і Чылі. «Разынкай» урачыстай цырымоніі стала прэзентацыя перакладу біяграфіі І. Дамейкі на беларускую мову. Аўтарам кнігі «Ігнат Дамейка: з Мядзвядкі — у Сант'яга-дэ-Чылі» з'яўляецца праўнучка вялікага даследчыка, спадарыня Пас Дамейка. Яна старанна захоўвае памяць прадзеда, таму была ўзрадаваная запрашэнню ў Беларусь: ніколі не марыла апынуцца на зямлі, дзе нарадзіўся і быў узгадаваны яе продак. Беларускі пераклад кнігі пабачыў свет па ініцыятыве Міністэрства замежных спраў і пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі. Міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч папрасіла праўнукаў Ігната Дамейкі пакінуць свае аўтографы ды ўражанні ад візіту ў Беларусь на старонках кнігі «Ігнат Дамейка: з Мядзвядкі — у Сант'яга-дэ-Чылі». Падпісаны асобнік перадалі ва ўласнасць Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Сцены залы, дзе адбылася прэзентацыя, сімвалічна ўпрыгожвалі партрэты дзевячаў беларускай навукі з Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, а таксама карціны з натуральнага каменю. Да святкавання гадавіны славутага навукоўца быў падрыхтаваны Міжнародны выставачны праект «Ігнат Дамейка — тытан навукі», дзе можна было пазнаёміцца з жыццём і працай выбітнага «ліцвіна».

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Узнёсласць «Скарынера»

## Пленэр у Друі як дыялог паміж мастацтвам і рэлігіяй

**Браслаўшчына сабрала мастакоў з Беларусі і з замежжа: III Міжнародны мастацкі плэнер сёлета быў прысвечаны 500-годдзю перакладу «Біблії» Францішкам Скарынам. Натхненне пачалося з боскага блаславення — са святой Імшы ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Друі. Як паведаміў партал *catholic.by,* узнёслы, малітоўна-паэтычны стан суправаджаў удзельнікаў усе дні.**



*Падчас пленэру ў Друі.*

Удзельнікамі пленэру сёлета сталі каля 40 творцаў. Сярод гасцей былі не толькі прафесійныя мастакі, але і выхаванец Друйскага дзіцячага дома Ілья Данілевіч, якому 14 гадоў. Арганізатары з друйскай парафіі прапанавалі гасцям культурна-музычную праграму. Але галоўнай асобай усё ж стаў Скарына: у гонар яго ў касцёле стварылі экспазіцыю, у цэнтры якой макет друкаванага станка Ёхана Гутэнберга і драўляная скульптура беларускага першадрукара і перакладчыка Біблії на родную мову. У наш час ёсць магчымасць чытаць не толькі Скарынавы тэксты ў арыгінале, але і сучаснае перастварэнне іх, напрыклад, ад Алеся Разанава з кнігі «Маем найбольшае самі». Яны прагучалі ў адмысловай праграме ў спалучэнні з грыгарыянскімі спевамі. Усё гэта спрыяла выбару тэм для творцаў: муры храмаў і вобразы, звязаныя з гісторыяй хрысціянства, адчуванне прыгажосці боскага свету знайшлі адлюстраванне ў творах. З галоўнымі вынікамі пленэру — работамі, створанымі ў гэтыя дні мастакамі, — мясцовых жыхароў і гасцей пазнаёмілі падчас выстаўкі.

**Марыя АСІПЕНКА**

## Дайджэст

• З нагоды 215-годдзя выхадца з Беларусі, філамата, удзельніка паўстання 1830 — 1831 гадоў, навукоўца-даследчыка, геолага, мінеролага, рэктара Чылійскага ўніверсітэта Ігната Дамейкі чылійская каталіцкая царква пачала падрыхтоўку да яго кананізацыі, паведамляе хрысціянскі партал *kryniсa.info.* Памяць Ігната Дамейкі ў Чылі старанна захоўваюць: ён атрымаў званне нацыянальнага героя Чылі, яго імем названы мястэчка Дамейка ў адміністрацыйным рэгіёне Атакама, порт Пуэрта-Дамейка на паўднёва-заходнім беразе возера Льянкіуэ (другое па велічыні возера ў Чылі), пасёлак каля азначанага порта, а таксама некаторыя вуліцы ў Сант'яга, Вальпараіса і яшчэ ў васьмі гарадах Чылі.

• У вёсцы Лаўрышава Навагрудскага павета знайшлі рэшткі манастырскага храма XIX стагоддзя, паведамляе БелТА. Падмурак храма адшукалі ўдзельнікі валанцёрскага гісторыка-пошукавага лагера пры Свята-Елісеэўскім Лаўрышаўскім мужчынскім манастыры. Валанцёры прыбіралі старыя вясковыя могілкі, калі знайшлі рэшткі падмурка. Захаваліся ганак, а таксама контур асноўнага памяшкання і алтарнай часткі.

• Літоўскія археолагі завяршылі другі этап археалагічных даследаванняў Замкавай гары. Падчас раскопак на гары Гедыміна ў Вільні былі знойдзены рэшткі ўдзельнікаў паўстання 1863 — 1864 гадоў, а таксама аднаго з кіраўнікоў паўстання. Мяркуюць, што яны належалі паляку Зігмунду Серакоўскаму, якога пакаралі смерцю ў Вільні ў чэрвені 1863 года на Лукішскай плошчы (там, дзе пазней выканаюць прысуд над Кастусём Каліноўскім). Такія высновы дазволіў зрабіць надпіс на пярсцёнку з рукі пахаванага. Зігмунд Серакоўскі, сябар Тараса Шаўчэнкі і расійскіх рэвалюцыянераў М. Дабралюбава і М. Чарнышэўскага, быў капітанам расійскага Генеральнага штабу, але на пачатку паўстання кінуў службу ў царскім войску і ўзяў удзел у ваенных дзеяннях на Ковеншчыне, дзе трапіў у палон пасля таго, як яго войска разбілі.

• Сёлета спаўняецца дваццаць год культаваму фільму-катастрофе «Тытанік» амерыканскага рэжысёра Джэймса Кэмерана. Карціна пра гібель вялікага лайнера, што сабрала ў сусветным пракаце больш за 1,8 мільярда долараў, дасюль прыцягвае прыцягваць сродкі. Гэтым разам — праз аўкцыён, на якім прададуць вячэру разам з Леанарда Дзі Капрыа і Кейт Уінслет — галівудскімі акцёрамі, якія выканалі ў фільме галоўныя ролі. Дабрачынны аўкцыён адбудзецца ў Сан-Трапэ (Францыя), а павячэраць з экраннымі Розай і Джэкам можна будзе ўвосень у Нью-Ёрку. Грошы, атрыманыя ад таргоў, пойдуць на ахову прыроды.

## ЛіМ-каляндар

**31 ліпеня** — 200 гадоў з дня нараджэння Ігната Храпавіцкага (1817 — 1893), беларускага паэта, фалькларыста, грамадскага дзеяча.

**1 жніўня** — 80 гадоў з дня нараджэння Юрыя Яфімава (1937 — 1991), беларускага дырыжора, народнага артыста БССР.

**3 жніўня** 60-гадовы юбілей адзначыў Кастусь Дробаў, беларускі фотамастак.

**3 жніўня** 70 гадоў споўнілася Галіне Сівярцавай, беларускаму мастаку дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

**4 жніўня** — 115 гадоў з дня нараджэння Ганны Касценіч (1902 — 1990), беларускай спявачкі.

**4 жніўня** — 100 гадоў з дня нараджэння Янкі Брыля (1917 — 2006), беларускага празаіка, перакладчыка, публіцыста, народнага пісьменніка БССР.

**4 жніўня** — 70 гадоў з дня нараджэння Мікалая Селешчука (1947 — 1996), беларускага жывапісца, графіка.

**5 жніўня** — 110 гадоў з дня нараджэння Эдуарда Самуйлёнка (1907 — 1939), беларускага празаіка, драматурга.

**5 жніўня** — 100 гадоў з дня нараджэння Антона Семяновіча (1917 — 2000), беларускага крытыка, літаратуразнаўца.

**5 жніўня** 95-годдзе адзначае Мікалай Пало, беларускі акцёр, заслужаны артыст БССР.

**5 жніўня** — 95 гадоў з дня нараджэння Алімпіяды Шах-Парон (Няфёд) (1922 — 2009), беларускай актрысы, заслужанай артысткі БССР.

**5 жніўня** 90 гадоў споўніцца Мікалаю Назарчуку, беларускаму жывапісцу, педагогу.

**5 жніўня** 85-годдзе святкуе Дзіямара Ніжнікоўская, беларускі рэжысёр тэатра і кіно, педагог.

**5 жніўня** 75 гадоў адзначыць Фаіна Хаміновіч, беларускі майстар дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

**5 жніўня** — 70 гадоў з дня нараджэння Віктара Маркаўца (1947 — 2013), беларускага жывапісца.

**5 жніўня** — 70 гадоў з дня нараджэння Віталя Скалабана (1947 — 2011), беларускага гісторыка, літаратуразнаўца, архівіста.

**6 жніўня** — 85 гадоў з дня нараджэння Лідзіі Эрлер (1932 — 2008), беларускага жывапісца.

**6 жніўня** 60 святкуе Мікалай Пінігін, беларускі рэжысёр.

РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"» і калектыў рэдакцыі «Літаратура і мастацтва» выказваюць шчырыя спачуванні намесніку галоўнага рэдактара «ЛіМа» Інесе Яўгенаўне ПЕТРУСЕВІЧ у сувязі з вялікай стратай — смерцю маці ад цяжкай хваробы. Вытрымкі і сіл Вам у гэтыя цяжкія дні.

Рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва» шчыра спачувае дырэктару Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганне Вячаславаўне ЗАПАРТЫКА ў сувязі са смерцю мужа. Выказваем словы падтрымкі родным і блізкім нябожчыка, у тым ліку супрацоўніцы рэдакцыі Жане Вацлаваўне ЗАПАРТЫКА.

# Бясконцасць = Быццё = Беларусь

**Пацверджаннем бясконцасці Скарыны стала яшчэ адно выданне, што напярэдадні юбілею прадставіла «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» і Нацыянальная бібліятэка Беларусі: «Сусветная спадчына Францыска Скарыны» накіравана на тое, каб падкрэсліць знітаванасць беларускага часу і часу наогул. Звязаць час Скарыны і наш, каб зразумець яго мог кожны грамадзянін нашай краіны. Таму выданне падтрымала Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Яно ўжо паспела атрымаць Гран-пры Міжнароднага конкурсу краін — удзельніц СНД «Мастацтва кнігі» і Гран-пры Еўразійскай міжнароднай кніжнай выстаўкі «*Eurasian Book Fair-2017*». Пра адметнасць выдання «Сусветная спадчына Францыска Скарыны», а таксама бясконцасць яе спасціжэння мы размаўляем з укладальнікам кнігі, намеснікам дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесем Сушам:**




— Бясконцасць выданняў, прысвечаных Скарыну, абумоўлена бясконцасцю гэтай асобы, яе спадчыны. Скарына невычарпальны як у сэнсе кірункаў сваёй дзейнасці, так і ў сэнсе геніяльнасці праяваў гэтай дзейнасці. Невычарпальны і праз тыя багацці, якія ён нам пакінуў. Мы добра ведаем, што ён і пісьменнік, і перакладчык, і выдавец, і друкар, і мысліцель, і асветнік, які займаўся адукацыйнай працай, і лекар, і батанік… І ва ўсіх гэтых кірунках ён меў дасягненні, якія і праз 500 год нам падаюцца вартымі ўвагі. Натуральна, што падыходы да разумення гэтай асобы ў нас разнаспектныя: кожнаму цікава нешта сваё. Тое ж мы можам сказаць і пра яго спадчыну: кнігі, выдадзеныя 500 год таму, настолькі багатыя на мастацкае слова, на глыбокую філасофскую думку, на канкрэтныя вузкія развагі, на навуковасць і на чалавечнасць, што кожны чалавек можа знайсці ў іх нешта сваё, на гэта разлічваў і сам Скарына. Ён прапаноўваў, дзеля чаго якую кнігу чытаць, у якім узросце: адна патрэбна для навучання матэматыцы, другая — астраноміі, іншая — музыцы ці вайсковай справе... Сёння так і ёсць, мы па-рознаму спасцігаем талент Скарыны: часам вывучаем гравюры ў яго выданнях, якія з'яўляюцца бясконца цікавым феноменам, часам звяртаемся да яго літаратурнай спадчыны, вывучаем арыгінальныя тэксты, а часам звяртаем увагу на багаслоўскі аспект яго дзейнасці — на пераклад Біблііі, на моўны фактар, на характар перакладу Святога Пісання. Кожнаму аспекту можна прысвяціць асобнае даследаванне.

Калі казаць пра тое выданне, якое прадстаўлена цяпер, — гэта адна са спробаў па-новаму асэнсаваць спадчыну Францыска Скарыны. Справа ў тым, што беларусы не мелі магчымасці азнаёміцца з усім комплексам яго спадчыны, што захавалася да нашых дзён. Дзякуй богу, 25 гадоў таму пабачыла свет факсімільнае выданне пражскіх кніг Скарыны, хаця яно было недасканалым у паліграфічным сэнсе і паказвала толькі частку агульнай спадчыны. Цяпер мы зрабілі поўнае факсімільнае ўзнаўленне, але і яно не паказвае ўсю спадчыну: з усіх збораў, з усіх краін, з усіх калекцый — і ў гэтым Скарына бясконцы!.. Такую задачу мы паставілі яшчэ гады чатыры таму, калі вырашылі ўлічыць усе выданні першадрукара, якія захаваліся ў свеце (на цяперашні час вядома каля 520 асобнікаў і яшчэ каля 45 рукапісных кніг Скарыны): нахай недзе ёсць толькі адна старонка ці палова староначкі, але калі яны ёсць, мы іх улічваем. Важна апісаць такія выданні на ўзроўні экземпляра: вось «Псалтыр», такая-та частка, захоўваецца там-та. Поўнага экзэмпляра, напрыклад, пражскага «Псалтыра», няма нідзе, і каб гэтую кнігу ўявіць, трэба пабачыць адзін асобнік, які ёсць у Маскве, і другі, які ў Пецярбургу. Паставіўшы іх разам, можна рабіць нейкія высновы. Наступным этапам пасля выяўлення ўсіх вядомых асобнікаў, іх уліку і падрабязнага дэталёвага апісання стала алічбоўка і збіранне лічбавых копій разам, каб даследчыкі маглі іх параўнаць, вылучыць асаблівасці, вывучыць характар кожнага асобніка. І апошняй справай стала публікацыя гэтых матэрыялаў у выглядзе альбома, які ўяўляе сабой спробу паказаць усе выданні Францыска Скарыны праз максімальна разнастайныя асобнікі з 10 краін свету: з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Чэхіі, Германіі, Вялікабрытаніі, Даніі, Славеніі, дзе, як мы ведаем, захаваліся кнігі Скарыны. Гэта было важным крокам дзеля таго, каб пабачыць хай сабе і няпоўныя асобнікі. Гэта дазволіла зрабіць шэраг адкрыццяў, былі вылучаныя новыя ідэі і гіпотэзы, напрыклад, калі мы пабачылі аркушы з выданняў Скарыны, якія потым трапілі ў пераплёты іншых выданняў (гэты лёс напаткаў многія выданні XV — XVI стагоддзяў). Такая праца была важная з навуковага пункту гледжання, але яна аказалася вельмі цікавай і з грамадскага пункту гледжання. Мы вырашылі, што вельмі цікава гэтую спадчыну зрабіць даступнай для шырокай аўдыторыі, каб любы ахвотны мог пабачыць, як выглядалі кнігі Скарыны, што захоўваюцца ў Варшаве, Кракаве ці Вроцлаве, а як выглядае асобнік з 11 кніг, што знаходзіцца ў Германіі, што ёсць у Вялікабрытаніі… Напрыклад, уявіць, як выглядае дацкі экзэмпляр «Малой падарожнай кніжкі» да гэтага часу было немагчыма.

**— Усе ведаюць, што першай кніжкай, выдадзенай Францыскам Скарынам, быў «Псалтыр». Чым ён кіраваўся, калі вырашаў, з чаго пачынаць? Бо можна было выдаваць Біблію з пачатку — з «Кнігі Быцця»…**

— Гэтае пытанне паўстала, як толькі пачалі вывучаць спадчыну Скарыны. Сапраўды, ён выдаваў Біблію. «Псалтыр» — адна з кніг Біблії, але часта выдаецца асобна, бо мае шмат прызначэнняў: гэта не толькі і не столькі кніга Святога Пісання ў складзе Біблії, але гэта яшчэ і падручнік для шырокіх колаў, па якім нярэдка навучаліся грамаце і чытанню. Фактычна гэта спеўны зборнік з псалмоў Давідавых. Яны выконваліся царом Давідам, а пасля сталі выкарыстоўвацца як песнапенні ў царкве і ў пазацаркоўным ужытку. Многія з гэтых псалмоў адаптаваныя да сучаснай сілабатанічнай паэзіі ці іншых паэтычных формаў. «Псалтыр» — гэта ўніверсальны зборнік шырокага зместу і прызначэння, які быў вельмі запатрабаваным ужо ў часы Скарыны, але і да таго, і пасля. Скарына гэта цудоўна разумеў. Выданне іншых кніг Старога запавету якраз выглядала б большай рызыкай, нават авантурай. Гэтыя кнігі былі тады важнымі для багасловаў, асабліва ў часы Рэфармацыі, — надрукаваць Святое Пісанне. Але тэксты асабліва Старога запавету мелі вельмі лакальнае выкарыстанне. Іх не так часта выкарыстоўвалі ў набажэнствах (для гэтага былі іншыя кнігі) і для чытання бралі толькі фрагменты са старазапаветных кніг. Скарына меў нашмат большыя планы і задачы. Ён пачаў выпускаць кнігі не ў кананічным біблейскім парадку, а ў іншым. Чаму? На гэта ёсць розныя погляды. Можна здагадвацца, чаму для пачатку быў абраны «Псалтыр»: гэта кніга, запатрабаваная ў хрысціянскім свеце, да якога была далучана беларуская зямля. Але «Кніга Іова», што была другім выданнем, — філасофскі, маральна-выхаваўчы тэкст, не падобны да «Псалтыра» і наступных выданняў. Потым ішлі «Кніга Прытчаў», «Кніга Ісуса, сына Сараха» і іншыя, якія таксама адрозніваліся ад папярэдніх. «Саламонавы кнігі», выпушчаныя разам, — з аднаго боку, гэта кнігі Старога запавету, але і яны маюць сваю адметнасць. Складана выявіць заканамернасць. Але верагодна, што Скарына меў задачу, як ён пісаў у прадмове да ўсёй Біблії ў «Кнізе Быцця»: выпусціць усе кнігі Святога Пісання, бо кожная з іх вельмі патрэбная грамадству і канкрэтнаму чалавеку для адукацыі, для самавыхавання і для хрысціянскага самаўдасканалення ды іншых мэтаў. Магчыма, паслядоўнасць не была істотнай для кнігадрукара. Хоць выданне «Псалтыра» — невыпадковае. Бо «Псалтыр» — гэта кніга, якую Скарына выдаў двойчы: у Віленскі перыяд фактычна з «Псалтыра» пачалася яго выдавецкая дзейнасць, бо асноўны аб'ём «Малой падарожнай кніжкі» складае менавіта «Псалтыр».



**— Ці мог ён прэтэндаваць на грамадска-свецкі ці пазаканфесійны характар сваёй працы?**

— Бясспрэчна, гэта вельмі вылучае выдавецкія ініцыятывы Скарыны: ён не заручаецца падтрымкай ніводнай з канфесій, не просіць, прынамсі, не прапісвае благаславення ні ад аднаго з царкоўных іерархаў — ні ўсходніх, ні заходніх. Ён не выконвае замову (прынамсі, нам гэта невядома) нейкай з цэркваў. Мы ведаем пра прыватных асобаў, пра мецэнатаў, якія спансіравалі яго дзейнасць, але не ведаем такіх фактаў у дачыненні да хрысціянскіх цэркваў. Ён не кажа пра арыентацыю сваіх выданняў для богаслужбовых патрэб. Не кажа пра тое, што гэтыя кнігі патрэбныя святарам для набажэнстваў ці пазаслужбовага, ці манастырскага ці хатняга чытання. Ён кажа пра тое, што гэтыя кнігі патрэбныя кожнаму: людзям «паспалітым» яны патрэбныя дома, патрэбныя ў дарозе, для асабістага самаўдасканалення. Падыход, характэрны для эпохі Рэфармацыі. Гэта вылучае выданні Францыска Скарыны з усяго, што было перад тым на беларускіх землях.

**— Новае выданне выпушчана вамі на трох мовах (беларускай, рускай, англійскай), што падкрэслівае касмапалітызм Скарыны: ён сапраўды шмат дзе быў. Але фактычна прыйшоў да таго, што сёння акрэслілася ў нацыянальную ідэю. Якім чынам ён прыйшоў да разумення важнасці кнігавыдавецкай справы ў канкрэтнай кропцы свету?**

— Сапраўды, мы часцей за ўсё маем узоры супрацьлеглыя: калі чалавек арыентаваны на свет, на ўзоры іншых, часам іх узносіць вышэй за сваю культуру. Альбо адваротны варыянт: замкнуцца на нацыянальнай культуры. Скарына не ішоў ні адным з гэтых шляхоў. Ён разумеў неабходнасць вывучэння сусветнага досведу ў кнігадрукаванні, у медычнай справе, у філасофскай ці тэалагічнай думцы, у прыкладных кірунках дзейнасці. Пры гэтым заўсёды памятаў, дзе яго карані і дзе яго родная зямля. Падкрэсліваў, адкуль паходзіць у кожнай сваёй публікацыі, а часам не адзін раз: што ён са слаўнага горада Полацка. У дакументах Кракаўскага ўніверсітэта ён названы ліцвінам, у дакументах падуанскага ўніверсітэта — русінам. У дадзеным сэнсе хутчэй за ўсё гаворка пра прыналежнасць да палітычнай супольнасці. Прытым у пазнейшых дакументах і дзеці Скарыны імкнуліся вызначыць сваё паходжанне. Сын Скарыны, які ледзь не ўсё жыццё пражыў на чужыне і памёр у Чэхіі, назваў сябе Сымонам Русам, значыць, паходжаннем з Рускай зямлі — так сябе называлі акурат беларусы, адрозніваючыся ад палякаў і маскавітаў, на той час гэта было беларуска-ўкраінскім этнонімам. Таму Скарына — яркі прыклад таго, як, карыстаючыся дасягненнямі сусветнай цывілізацыі, паважаючы, развіваючы агульнаеўрапейскую сусветную культурную традыцыю, уздымаць сваю, а не толькі ставіць яе на адзін узровень з іншымі, каб заняць пачэснае месца паміж народамі.

Мне падаецца, гэта харошы шлях — спалучэнне сусветнага досведу і нацыянальных традыцый. Вельмі важна, што сёння гэты шлях адкрывае вялікія магчымасці і праз прыклад Скарыны, бо яго вобраз стаў сімвалічным. Праз Скарыну, праз яго спадчыну ўсё часцей беларуская культура ўспрымаецца светам. Праз яго персону многія замежнікі бачаць Беларусь як край з багатай культурай, з вялікай колькасцю дасягненняў, з развітой моўнай, літаратурнай традыцыяй, з найбагацейшымі набыткамі ў сферы мастацкай культуры.

**Падрыхтавала Ларыса ЦІМОШЫК**

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**


Францыск Скарына. Аўтапартрэт. Гравюра 1517 г.

**Спадчына Францыска Скарыны натхняе сучасных беларускіх літаратараў. Паэзію ў прадмовах першадрукара адчуў Алесь Разанаў — з яго перастварэннямі Скарыны мы знаёмілі нашых чытачоў на пачатку года ды падчас круглага стала, прысвечанага кнізе «Маем найбольшае самі». Адзін з удзельнікаў, літаратуразнаўца Алесь Бразгуноў, адзначыў паэтыку Скарынавых прадмоў: «Паэзія — філасофія, бачанне, пункт адліку, рытміка, мелодыка, адчуванне сябе ў свеце і свету ў сабе». Сёння мы знаёмім з яго паэтычным перакладам тэкстаў першадрукара на сучасную беларускую мову.**


Алесь Бразгуноў.

# Францыск Скарына
# ПРАДВЕРШЫ

(узнавіў Алесь Бразгуноў)

## ПРАДМОВА ДА ЎСЁЙ РУСКАЙ БІБЛІІ

Бивлиа — греческим языком, порускии сказуется «книги», тако убо светый Матфей почынаеть Христово благовествование: «Бивлос генезеосъ Ісус Христу», то естъ по-рускии «Книга родства Ісус Христова».

*З грэчаскай ‘бівліа’*
*будзе па-нашаму ‘кнігі’.*
*Так пачынае Мацвей*
*добрую вестку Хрыстову:*
*«Бівлос генэзеос»;*
*у перакладзе*
*на рускую мову —*
*«Радаводная кніга»*
*Ісуса Хрыста.*

Хощеши ли умети граматику или, по-рускы говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполной Бивлии Псалтыру — чти ее.

Пакли ти ся любить разумети логику, онаже учить з доводом розознати правду от кривды, чти книгу светого Іова или Послания светого апостола Павла.

Ащели же помыслиши умети риторику, еже естъ красномовность, чти книги Саломоновы. А то суть три науки словесные.

*Хочаш грамату ведаць,*
*чытанню вучыцца і добрай прамове —*
*маеш «Псалтыр», не лянуйся.*

*Логіку любіш, што доказна вучыць*
*адрозніваць праўду ад крыўды, —*
*«Кнігу Іова» чытай*
*і пасланні апостала Паўла.*

*А красамоўству навучаць*
*кнігі цара Саламона.*

*Гэта што тычыцца слоўных навук.*

Восхощеш ли пакъ учитися музики, то естъ певници, премножество стиховъ и песней светыхъ по всей книзе сей знайдеши.

Любо ли ти ест умети аритметику, еже вократце а неомылне считати учить, Четвертыи книги Моисеевы часто чти.

Пакли же имаши предъ очима науку геометрию, еже по-руски сказуется «землемерение», чти книги Ісуса Навина.

*Музыкі хочаш і спеваў — па ўсёй*
*гэтай кнізе*
*мноства вершаў і песень святых.*

*Па душы арыфметыка раптам,*
*што вучыць бясхібнаму ліку, —*
*пачытвай чацвёртую кнігу Майсея.*

*Да геаметрыі хочаш звярнуцца,*
*землямерства па-нашаму,*
*кнігу бяры сына Нава, Ісуса.*

Естъли астрономии, или звездочети, найдеш на почятку книги сее о сотворении солнеца, и месеца, и звездъ. Найдешъ во Исусе Наувине, яко стояло солнеце на единомъ месте за целый день. Знайдешъ во книгахъ Царствъ, иже солнеце воспять поступило неколико ступневъ. Знайдешъ во светомъ Еувангелии о новосотвореной звезде часу нарожения нашего Спасителя Ісуса Христа. Более воистинну чудитися превеликой Божией моци мусишъ, нижли учитися. А то суть седмъ наукъ вызволеныхъ.

*Да астраноміі, зорнай навукі,*
*ахвочы —*
*маеш на самым пачатку «Быцця»*
*пра Месяца, Сонца і зорак з'яўленне;*
*у кнізе Ісуса, сына Нава, —*
*як сонца ўвесь дзень нерухома стаяла;*
*у «Царствах» — як рух свой*
*змяніла назад;*
*пра новую зорку*
*падчас нараджэння*
*нашага Збаўцы Ісуса —*
*у Дабравесці.*

*Божай моцы нязмернай*
*болей мусіш здзіўляцца,*
*чым навучаннем займацца:*
*сведчаць пра тое*
*сем вольных навук.*

О сихъ книгахъ всея Бивлии подле малости розуму моего розделы вократце положих. А в чем бых ся омылих, разумнейшие, поправте, прошу вас, для Бога и для посполитого доброго.

*Пра гэтыя кнігі падаў*
*я сціслае падсумаванне*
*па малым сваім разуменні.*
*Дзе памыліўся — папраўце.*
*Дзеля Бога і ўсіх дабра,*
*папраў, больш дасведчаны браце!*

## КНІГА БЫЦЦЁ

Кто убо от философовъ могъ поразумети, абы Господь Богъ словомъ Своимъ с низчего сотворилъ вся видимая и невидимая? Старейшине ихъ, Аристотелю, глаголющю: «З нисчего ничтоже бысть».

*Хто з філосафаў мог зразумець,*
*як Гасподзь адным толькі словам*
*з нічога стварыў цэлы свет?*
*З іх самы галоўны,*
*сказаў Арыстоцель:*
*«З нічога — нішто».*

Мы пакъ, хрестиане, зуполную веру имамы Всемогущего, во Троици единаго Бога, в шести днехъ сотворившего небо и землю и вся, еже суть в нихъ.

*Але мы — хрысціяне,*
*мы верым у Бога,*
*адзінага ў Тройцы:*
*у шасці днях*
*з нічога стварыў*
*Ён і неба з зямлёю,*
*і ўсё, што на іх.*

## ПСАЛТЫР

Законъ живота вечного людей доступити учить; пророци придущее — доброе добрымъ а злое злым проповедують; деяния же и животы светыхъ отець жити насъ на свете в боязни Божией и в терпении навчають; притчи пак и приповести премудрыхъ учителевъ добрых обычаевъ младыхъ и старыхъ наставляють.

*Дайсці да жыцця на нябёсах*
*людзей Запавет навучае.*

*Прарокі вяшчуюць: добры дабро,*
*а злы — благую адплату*
*ў прышласці атрымае.*

*Дзеі святых айцоў, жыціі*
*цярпенню вучаць і Бога баяцца,*
*прытчы, выслоўі —*
*старых і малых —*
*у добрых звычаях*
*кшталтавацца.*

Псалтырь же сама едина вси тые речи в собе замыкаеть, и всехъ тыхъ учить, и все проповедуеть. Суть бо в ней псалмы якобы сокровище всихъ драгыхъ скарбовъ: всякии немощи, духовныи и телесныи, уздравляють, душу и смыслы освещають, гневъ и ярость усмиряють, миръ и покой чинять, смутокъ и печаль отгоняють, чювствие в молитвахъ дають, людей в приязнь зводять, ласку и милость укрепляють, бесы изгоняють, ангелы на помощь призывають.

*Псалтыр, ён адзін убірае ўсе рэчы,*
*усяму навучае, усё абвяшчае,*
*ён псалмы — нібы сховішча скарбы*
*неацэнныя — у сабе замыкае:*
*немачы цела і духу лякуюць,*
*думкі з душамі прасвятляюць,*
*лютасць, гнеў патаймуюць,*
*мір, спакой спасылаюць,*
*жальбу з сумам развеюць,*
*прачулай малітвай надзеляць,*
*людзей для сяброўства яднаюць,*
*любоў, мілату ўзмацняюць,*
*чарцей гоняць прэч,*
*а анёлаў*
*памагчы заклікаюць.*

Псаломъ ест щитъ противъ бесовскымъ нощньнымъ мечтанием и страхомъ, покой деннымъ суетамъ и роботамъ, защититель младыхъ и радость, старымъ потеха и песня, женам набожная молитва и покраса, детемъ малымъ початокъ всякое доброе наукы, дорослымъ помножение в науце, мужемъ моцное утверьжение.

*Псалом — шчыт проці страхаў*
*чартоўскіх і мрой,*
*у клопатах дзённых і працы спакой,*
*абарона і радасць — для маладога,*
*суцяшэнне і песня — для старога,*
*набожная малітва і ўкраса —*
*для жанчыны,*
*пачатак добрай навукі —*
*для малой дзяціны,*
*для сталых — у ведах узрастанне,*
*для мужоў — у сіле ўмацаванне.*

## КНІГА ВЫХАДУ

Пишеть же в сих книгахъ Моисей о неволи сыновъ Израилевыхъ, еже работаху во Египте; о нарожении своемъ и утекании предъ фараоном; яко Господь Бог явился ему в купине неопалимой и послал и, абы вывелъ людей Израилевых изъ Египта.

Что знаменовала ест неволя телесная сыновъ Израилевыхъ во Египте? Не нашу ли неволю душную?

*Піша тут пра няволю Майсей,*
*што зазналі ў Егіпце*
*Ізраілевы сыны,*
*пра сваё нараджэнне*
*і ўцёкі ад фараона,*
*а таксама*
*як Божая воля*
*была яму аб'яўлёна*
*праз палаючы куст,*
*што гарэў, не згараў:*
*«Народ Мой вядзі з Егіпта!»*

*Ці тая няволя, што Ізраіль*
*цялесна ў Егіпце трымала,*
*не нашае рабства*
*духоўнае азначала?*

Господь Богъ десятеро приказание имъ далъ, написано на доскахъ каменных.

ПЕРВОЕ:
Веруй в Бога единаго
ВТОРОЕ:
а не бери надармо имени Его.
ТРЕТЕЕ:
Помни дни святые святити,
ЧЕТВЕРТОЕ:
отца и матку чтити.
ПЯТОЕ:
Не забивай ни едина
ШЕСТОЕ:
и не делай греху блудна.
СЕДМОЕ:
Не вкради что дружнего
ВОСМОЕ:
а не давай сведецства лживаг[о].
ДЕВЯТОЕ:
Не пожедай жены ближнего,
ДЕСЯТОЕ:
ни имения или речи его.

*Дзесяць прыказанняў*
*Гасподзь ім спаслаў —*
*на дошках каменных*
*так запісаў:*
*«Вер у Бога адзінага свайго,*
*не згадай надарма імя Яго!*
*Не забывай дні святыя святкаваць,*
*бацькоў шанаваць!*
*Нікога не забі!*
*Граху распусты не рабі!*
*Не бяры чужога!*
*Не давай сведчання крывога!*
*Не жадай жонкі блізкага свайго,*
*ні маёмасці, ні рэчаў яго!»*

# ЗАПАВЕТНАЕ СЛОВА

Даўно і неаднойчы сказана, што кожны пісьменнік усё жыццё піша адну-адзіную кнігу, у якой гаворыць чытачу сваё, толькі сваё запаветнае слова. «І гэта, — чытаем Янку Брыля! — слова Талстога, Байрана, Гётэ, Міцкевіча, Шаўчэнкі, Купалы... Любой сілы талент мае права на сваё слова, абавязаны, закліканы сказаць яго, наяўнасцю гэтага слова — толькі аднаму яму прыналежнае — вызначаецца значэнне кожнага сапраўднага пісьменніка». Такое слова прагучала з вуснаў Янкі Брыля ў найлепшую пару яго творчага ўзлёту, калі ён ведаў, на каго раўняцца.

Літаратурнай класікай лірычнай і філасофскай прозы народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля сталі яго апавяданні, аповесці, раман-паэма «Птушкі і гнёзды», унікальная міні-проза, лірычныя замалёўкі, імпрэсіі, нарысы, публіцыстыка, літаратурныя партрэты, філасофскія развагі, «асколкі сонечных праменняў», «вітражы», перапіска, дзённікавыя запісы, нататкі з блакнота... Сапраўдны чараўнік мастацкага слова, які адначасова ў другой палове XX стагоддзя падзабытае майстэрства апавядання, мастак-жывапісец і мысляр-мудрэц аднаасова. Беларуская проза ў яго творчасці стала больш шчырай і адкрытай, натуральнай, набыла абрысы еўрапейскага інтэлектуалізму, разняволілася ў жанравых і стылёвых адносінах. У шматлікіх героях Брыля і яго самога як асобы вельмі спецыфічнае, чыста нацыянальна-беларускае стаўленне да гумару...

31 студзеня 2005 года, за паўтара года да завяршэння жыццёвага шляху Янкі Брыля 25 ліпеня 2006 года, ён глыбока, прадумана напісаў сваё «З А В Я Ш Ч А Н Н Е», якое пачыналася са звароту: «Калі — магчыма і пажадана — дойдзе да пасмяротнага выдання майго Збору твораў, вельмі прасіў бы ўсіх, ад каго гэта будзе залежаць, улічыць мае няспешна прадуманыя меркаванні наконт зместу гэтага выдання. Яны такія:..» Далей пералічваюцца назвы літаратурных жанраў: дапрацаваны варыянт на працягу 1992 — 1993 гг. рамана-паэмы; 9-ці аповесцей у названым вышэй трохтомніку; апавяданні (каля 222 па ліку), сярод якіх асобна названа 21 апавяданне (аўтар іх просіць і патрабуе «больш не друкаваць»); нарысы, дзе таксама згадана некалькі з іх, бо «яны сваё аджылі», змяніўшы рэдакцыйную назву апавядання «Сэрца камуніста» на «Павел Арсеневіч»; літаратурныя партрэты са збору твораў, асобных зборнікаў, кніг; лірычныя запісы і мініяцюры, а таксама тыя, якія маюцца ў «хатнім архіве» («6 папак старанна падрыхтаваных, больш чым на два аб'ёмныя тамы, — якніяк гэта ж за паўстагоддзя запісвання»); публіцыстыка, з улікам таго, што асобныя артыкулы «друкаваць больш не трэба», а некаторыя аўтар прапануе «на справядлівы, кваліфікаваны адбор таму ці тым, хто будзе займацца разборам і падрыхтоўкай да мяркуемага выдання маёй літаратурнай спадчыны»; перапіска («у маёй літаратурнай спадчыне яе сабралася, можна сказаць, вельмі нямала»). «Вось такія, — завяршае "Завяшчанне" Янка Брыль, — мае меркаванні ў цэлым і падрабязна. Хочацца думаць з удзячнасцю, што яны будуць спагадліва ўлічаны».

У апошнія дзесяцігоддзі свайго жыцця Янка Брыль уразіў чытача і крытыку тым, што раптоўна апублікаваў некалькі цыклаў лірычных мініяцюр, якія адны палічылі за абразкі, жанр вядомы яшчэ з часоў «нашаніўства», другія ўспрымалі як урыўкі з пісьменніцкага дзённіка, які звычайна публікуецца пасля жыцця пісьменніка. Кнігі «Жменя сонечных праменняў» (1965) і «Вітраж» (1972) сталі своеасаблівай літаратурнай сенсацыяй. Чытача ўражвала нябачаная раней ступень аўтарскай шчырасці і адкрытасці: шмат якія факты, асобныя персанажы былі на слыху, лёгка пазнаваліся, падзеі ўспрымаліся як самыя надзённыя і свежыя. Здзіўляла багацце пісьменніцкага свету, яго ўнікальная назіральнасць і памятлівасць, небывалая шчодрасць, з якой ён рассыпаў самародкі сваіх ранейшых і пазнейшых уражанняў, згадак, высноў, сентэнцый, мудраслоўяў. Аб гэтым сведчаць зборнікі мініяцюр Янкі Брыля, выдадзеныя пасля 1993 года.



У новых умовах Янка Брыль публікуе тыя часткі сваіх дзённікавых запісаў, якія не маглі з'явіцца ў друку з-за цэнзурных перашкодаў. Убачанае нераўнадушнымі вачыма відавочцы і ўдзельніка падзей заўсёды ўяўляе гістарычную і эстэтычную цікавасць. У кнігах «Пішу як жыву», «Вячэрняе» (абедзве — 1994 год), «Дзе скарб ваш» (1997), «Сцежкі, дарожкі, прастор» (2001), «З людзьмі і сам-насам» (2003), «Блакітны зніч» (2004), «Парастак» (2006) — апошнюю кнігу Янка Брыль за два тыдні да сваёй ростані з зямным светам паспеў з аўтографамі (з дапамогай дачкі, Наталлі Іванаўны Семашкевіч) разаслаць 70 сваім сябрам, калегам, блізкім, будучым чытачам і даследчыкам. Перад намі шчодрыя россыпы пісьменніцкіх назіранняў і доследаў. Часцей за ўсё гэта старонкі, прысвечаныя праблемам беларускай мовы, культуры, творчасці.

**Міхась ТЫЧЫНА**

# Анатоль БУТЭВІЧ: «Пасеянае прарасце»

Калі толькі заходзіць гаворка пра ўспаміны, амаль кожны пачынае фразай: «Мне пашчасціла...» І як бы гэта трывіяльна ні гучала, мне пашчасціла быць знаёмым з Іванам Антонавічам. Нашая літаратурная сувязь пачалася, вядома, яшчэ са школы, дзе я, хутарскі школьнік з Нясвіжчыны, чытаў творы Брыля. Калі ж, трапіўшы ў Мінск, убачыў на свае вочы тых «хрэстаматыйных» пісьменнікаў, чые творы захаплялі ў школе, — Максіма Танка, Пімена Панчанку, Аркадзя Куляшова, Івана Шамякіна, Янку Брыля, некаторых іншых, — мяне ўразілі і здзівілі найперш іх прастасць-звычайнасць і незвычайная чалавечнасць. Было вялікае адкрыццё, бо калі вывучаў творы пісьменніка ў школе, уяўляў, што гэта ўсімі шанаваная асоба, да якой цяжка падступіцца. А тут раптам сустракаешся з чалавекам і бачыш, што ён такі ж звычайны, як і ўсе. Толькі, наадварот, гэтыя высокія асобы яшчэ больш адкрытыя, шчырыя, вабяць да сябе, на роўных размаўляюць з табой, а не ўзвышаюцца недаступнасцю.

Мне сапраўды пашчасціла мець цесныя і плённыя стасункі з Іванам Антонавічам — падчас працы ў сектары мастацкай літаратуры ЦК партыі, у Міністэрстве інфармацыі, Міністэрстве культуры і друку, выдавецтве «Мастацкая літаратура» — асабліва. У той час нашыя афіцыйныя адносіны «ачалавечыліся», я ўбачыў Івана Антонавіча звычайным, зусім простым чалавекам. Часам нават з хітрынкай назіраў: вось гэты чалавек, з якім мы размаўляем пра звычайныя жыццёвыя і творчыя справы, напісаў такія выдатныя творы, і хаця ў размове здаецца, што ён глядзіць на свет гэтак жа, як і любы іншы, на самай справе гэта няпраўда: ён здольны ўбачыць, адчуць, зразумець болей, чым кожны з нас.

Калі ў 1971 годзе я пачаў працаваць у БелТА па размеркаванні пасля філфака Белдзяржуніверсітэта, сустрэў там журналістаў, якія прыехалі з-за межаў Беларусі і беларускай мовы не ведалі. Адночы я прыхапіў на працу кнігу Янкі Брыля «Жменя сонечных промняў». Адзін з такіх журналістаў узяў гэтую кнігу пачытаць і так захапіўся, што не мог з ёю расстацца, — давялося яму «Жменю...» падараваць. Гэтая кніжачка была заўсёды з ім у любой вандроўцы і камандзіроўцы, у нас нават своеасаблівы «пароль» склаўся: «Ну, як там жменя сонечных промняў?» — «Грэе!»

Брылёўскія назіранні, карацелькі, філасафізмы сталіся своеасаблівым адкрыццём. Да яго амаль ніхто так не пісаў, ён быў адкрывальнікам глыбокай сэнсоўнасці ў кароткім слове. Але тут была і пэўная цяжкасць: кожнае слова нясе надзвычайную нагрузку, у караценькім сказе трэба стварыць густую сэнсавую і стылёвую скандэнсаванасць... Мабыць, толькі Брыль мог так пісаць.

Не кажу, што мы з Іванам Антонавічам пасябравалі: усё-ткі розны ўзрост, іншы жыццёвы ўзровень. Але ў пэўным сэнсе мы сталі блізкімі, сустракаліся і фармальна, і нефармальна, і на працы, і ў Саюзе пісьменнікаў, і ў гасцях адзін у аднаго. Мабыць, менавіта гэтыя ўспаміны — сапраўды тыя непаўторныя, унікальныя залацінкі, якія і сёння не прыцьмелі.



*Янка Брыль з калегамі Анатолем Бутэвічам, Максімам Танкам і Вольгай Іпатавай.*

Дапамог мне Іван Антонавіч і ў 1996 годзе, калі я збіраўся ехаць у Гданьск Генеральным консулам Беларусі. Тады я быў дыпламатам-пачаткоўцам, сфера была для мяне новая, таму я з удзячнасцю прыняў дапамогу: Янка Брыль даў «рэкамендацыі» да знакамітага пісьменніка з беларускімі каранямі Збігнева Жакевіча, які жыў у Гданьску, і радыёжурналісткі, таксама біяграфічна звязанай з Беларуссю, Ганны Шчапаньскай. Гэтыя знаёмствы і сустрэчы вельмі паспрыялі ў чалавечых і прафесійных стасунках. Пра нашыя непарыўныя «замежныя» стасункі сведчаць яговыя пісьмы, паштоўкі-віншаванні. І, вядома, нямала шчырых аўтографаў на кнігах Брыля.

Аднойчы, падчас майго адпачынку як пасла Беларусі ў Румыніі, на нашай мінскай кватэры сабралася цэлая пісьменніцкая кампанія: песні, спевы, дзе саліраваў Янка Брыль. Былі іншыя гаворкі-дыскусіі і на кватэры Янкі Брыля, і ў ягонай наднёманскай хаціне. Было, вядома, гасцяванне, чаяванне, гутаркі-спрэчкі пра літаратуру і... ярка выяўляўся характар Івана Антонавіча: ён выказваўся шчыра, адкрыта, нават крытычна і пра творчасць прысутных. На шчасце, у мяне захаваўся паўтарагадзінны відэазапіс той сустрэчы, праўда, да гэтага часу ён не пакладзены на паперу. Такім чынам, маем магчымасць паслухаць народныя песні ў выкананні Янкі Брыля і ягоныя развагі.

Нават у такіх прыязных адносінах я заўсёды ставіўся да Івана Антонавіча з піетэтам. І гэта праўда. Варта сказаць, што дзякуючы і яму я стаў афіцыйным сябрам Саюза пісьменнікаў: у 1993 годзе мне далі рэкамендацыю Янка Брыль, Адам Мальдзіс і Алег Лойка. Для мяне гэта было вельмі каштоўна, Іван Антонавіч станоўча ацэньваў маю перакладчыцкую працу, хаця выказваў і крытычныя заўвагі, напрыклад, адносна перакладу «Над Нёманам» Элізы Ажэшкі.

Ацэнку Брыля я прыняў як хрышчэнне, як арыенцір на творчы саюз, якога трымаюся ўсё жыццё. Хаця, вядома, не прыналежнасць да нейкай арганізацыі вызначальная для пісьменніка — яшчэ ні адзін творчы саюз ні за кога не стварыў ні рамана, ні паэмы, ні карціны, ні песні, ні фільма. Калі ты нешта маеш за душой, то і створыш нешта вартае, калі не — то ніякі творчы саюз за цябе гэтага не зробіць.

Нашыя літаратурныя стасункі з Янкам Брылём не перарываліся да яго апошніх дзён, бо Іван Антонавіч цікавіўся літаратурным жыццём, усё чытаў, усіх ведаў. Калі я прагладаў кнігі, якія прыносіці яму, то па заўвагах, зробленых на палях, бачыў, што ён не проста праглядаў, а сапраўды ўчытваўся. Калі яму ставала часу? На стале ў ягонай кватэры заўсёды былі кнігі Талстога, Чэхава, іншых рускіх класікаў, якія ён, вядома, перачытваў шмат разоў. Гэта значыць, што яго цяга да слова была натуральная, не паказная, што яму патрэбна было, магчыма, зверыць нейкія свае думкі з класікамі, а можа, паглядзець, як суадносіцца сэнс беларускай літаратуры і з еўрапейскім кантэкстам, і з рускай класікай.

У жыцці і дзейнасці многіх нашых вялікіх творцаў, пачынаючы ад Скарыны, дагэтуль разгаданы не ўсе загадкі. У Янкі Брыля таксама ёсць свая загадка, і яна, на мой погляд, таксама сёння не разгаданая. Ненадрукаванымі і невядомымі чытачу застаюцца надзвычай аб'ёмныя дзённікі пісьменніка. Магчыма, нас чакаюць цікавыя адкрыцці. Не хібячы ў слове публічным, Іван Антонавіч не мог схібіць і ў слове інтымным, дзе ён мусіў быць шчырым толькі перад самім сабой. Тыя дзённікі мо таксама хаваюць таямніцы і загадкі, мо некаторым з нас давядзецца не згаджацца, спрачацца. Ацэнкі, выказаныя Брылём, які добра ведаў жыццё ва ўсіх яго праявах, не могуць быць прадузятымі, а праўда, як вядома, часам бывае горкай. Вядомы і невядомы Янка Брыль чакае сустрэчы са сваім чытачом. І гэта добра: раз ёсць яшчэ нешта невядомае, значыць, ёсць і цікаўнасць.

Калі мы шанавалі пісьменніка пры жыцці, не варта выракацца гэтага звычаю і пасмяротна, трэба і далей глыбока вывучаць і аналізаваць творы, перавыдаваць кнігі, адзначаць памятныя даты. Не губляць з поля зроку творчую спадчыну тых асобаў, якія праз усё жыццё дбалі пра Беларусь і зрабілі для яе станаўлення неымерна шмат. Шануючы папярэднікаў, будзем смялей рассыпаць жмені сонечных промняў па беларускім полі. А пасеянае, вядома ж, прарасце.

**Падрыхтавала Жана КАПУСТА**

# НАЙМАЦНЕЙШЫЯ СЯРОД НАС…

## (творчы дыялог Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка)



*Янка Брыль і Уладзімір Калеснік. 1970-я гг.*

**«Колькі было перагаворана — каля надрэчнага вогнішча, на лясной дарозе, на свежым сене гумнаў, у хатняй утульнасці, пры настольнай лямпе і без яе, у начной цішыні то ў яго, то ў мяне, то ў нейкай незнаёмай да таго сціплай гасцініцы. Мужчынская шчырасць дружбы. “Падабенства сэрцаў”, як напісаў… яшчэ адзін наш Валодзя, Караткевіч» (Я. Брыль пра У. Калесніка).**

Уладзімір Калеснік быў і па сёння застаецца найарыгінальнейшым і аўтарытэтным даследчыкам творчасці Янкі Брыля. Гэтаму спрыяла іх шматгадовае сяброўства, глыбокае ўзаемаразуменне. Яны мелі шмат агульнага і ў асабістых лёсах. Абодва — заходнікі, землякі, узгадаваныя ў шчодрым Наднямонні: Янка Брыль — на паэтычнай Навагрудчыне, Уладзімір Калеснік — на Карэліччыне, што зусім побач. Гэтая акалічнасць вызначала пэўнае ментальнае падабенства. Да таго ж абодва прайшлі праз вайну з фашызмам, кожны — сваім драматычным шляхам. А потым яны і Алесь Адамовіч са старонак кнігі «Я з вогненнай вёскі…» пакажуць свету палаючую Беларусь, палаючыя жыцці ні ў чым не павінных людзей, чым прымусяць людзей розных краін задумацца над прычынамі дзікага чалавеканенавісніцтва.

Гісторыя іх сяброўства налічвае паўстагоддзя. Былі ў іх сумесныя падарожжы і адпачынкі. «*Падарожжы бліжэйшыя па роднай Навагрудчыне, і далейшыя, то ўдвух, то сем'ямі, то ў сяброўскай кампаніі… На працягу 1970 —1973 гадоў летнімі тыднямі мы сустракаліся з ацалелымі жыхарамі беларускіх “вогненных вёсак”. Адпачывалі разам над Нёманам і Шчарай, на Нарачы і Свіцязі, у Юрмале і Караліштавічах...*» (Я. Брыль). Разам апекаваліся маладзейшым і таленавітым Уладзімірам Караткевічам.

І Я. Брыль, і У. Калеснік — людзі надзвычайнай начытанасці, абазнанасці не толькі ў літаратуры, але і ў гісторыі, філасофіі, эстэтыцы, жывапісе. Для нас, маладзейшых, яшчэ пры іх жыцці яны самі былі сапраўднай гісторыяй беларускасці, нязломнасці беларускага духу. І кожны з іх — адметная, духоўна багатая асоба. Іх сяброўства — гэта дыялог дзвюх вялікіх асоб, які доўжыўся паўстагоддзя пры іх жыцці.

Яны былі ўдзячныя адзін аднаму за шчодрае на чалавечую і творчую ўзаемнасць сяброўства. Смуткуючы пасля адыходу У. Калесніка, Я. Брыль згадваў, што часта яму было прыемна згаджацца з сябрам, цікава і спрачацца, «*як гэта ў нас бывала… над ягоным ці маім рукапісам, а то і задаволена смяяцца па-нашаму, як шчаслівыя юнакі… Мне пашчасціла разам з ім нямала павандраваць і па нашых родных мясцінах, і па прасторах ад Белавежы да Прыпяці. Ён, як дамоў, запрашаў мяне на сустрэчы са сваімі студэнтамі і сябрамі-пісьменнікамі “Берасцейскага вогнішча”*». Я. Брыль цаніў і любіў свайго старэйшага сябра, паплечніка ў служэ роднаму слову, з пашанай і сумам пісаў пра гэта ў прадмове да кнігі «ўспамінальнай прозы» У. Калесніка «Доўг памяці».

Думаецца, што найперш Я. Брыля і У. Калесніка яднала беларускасць, якую абодва лічылі «стрыжнем асобы, чалавечаю нормай». Я. Брыль, у прыватнасці, пісаў: «*Гэта нармальна, што яно ў мяне ёсць, было і будзе — адчуванне роднай зямлі, народа, мовы, — нягледзячы ні на што*». У. Калеснік, задумаўшыся над выказваннем сябра, уступае ў дыялог з пісьменнікам і працягвае ўжо ад сябе разгортваць гэтую маральна-філасофскую тэму: «*Так, гэта нармальна ў прынцыпе, але жыццё несла так многа адхіленняў, якія станавіліся насланнём, бядою, што не раз пхала нас, беларусаў, да нацыянальнага нябыту. На шчасце, норма, захаваная дужэйшымі сярод нас, вяртала на шлях адраджэння ўсіх*».

Дыялогам пісьменніка і крытыка ўяўляецца ўсё, напісанае У. Калеснікам аб творчасці Я. Брыля. Найперш — гэта кніга «Янка Брыль: Нарыс жыцця і творчасці» (Мінск, Народная асвета, 1990). Несумненна, што гэта даследчыцкая праца — адна з лепшых кніг падобнага жанру ў беларускім літаратуразнаўстве. Яна з'яўляецца ўзорам не толькі глыбокага доследу аўтара па абранай тэме, але і высокай эстэтычнай густоўнасці, высокапрафесійнай чуйнасці даследчыка да кожнай дэталі як у жыцці, так і ў творчасці мастака слова. Гэта кніга ўзорная і ў плане бездакорнасці абраных навукова-метадалагічных падыходаў. Кніга пра Я. Брыля, як і іншыя працы У. Калесніка, убірае багаты жыццёвы, маральна-этычны і духоўны досвед не толькі пісьменніка, але і самога даследчыка, выдатнага літаратара. Асэнсаванне жыццёвага шляху Я. Брыля і яго мастацкай творчасці тут дапоўнена асабістым бачаннем свету даследчыка, што ўтварае згарманізаваны, больш, чым літаратуразнаўчы, — чалавеказнаўчы дыялог-дыскурс.

Выдатнай з'явай айчыннага літаратуразнаўства стаў і раздзел, прысвечаны аксіялагічнай, маральна-філасофскай інтэрпрэтацыі лірычных мініяцюр Я. Брыля «Усё чалавечае» з апошняй Калеснікавай кнігі з той жа назвай — «Усё чалавечае: Літаратурныя партрэты, артыкулы, нарысы» (Мінск, Мастацкая літаратура, 1993).

Жанр гаворкі-роздуму пісьменніка з сабой і з усімі, з прыродай, жыццём і светам прыйшоў у творчасць Я. Брыля яшчэ ў 50-я гады мінулага стагоддзя. Думаецца, што не без самапрызнання пісьменніка крытык У. Калеснік назваў мініяцюры Я. Брыля (як, дарэчы і іншых тагачасных беларускіх і ўвогуле савецкіх пісьменнікаў) «*формай барацьбы за свабоду творчасці ва ўмовах ідэалагічнага аўтарытарызму і рэгламентацыі творчага працэсу*». І сапраўды, менавіта глытком свежага паветра ў беларускай літаратуры яны былі ў пасляваенныя і застойныя гады, калі, па трапным вызначэнні У. Калесніка, уся беларуская і савецкая духоўная прастора «*была засмечана ідэалагічным пустазеллем*». Менавіта тады Я. Брыль, «*насуперак стандартам, склаў падборку колішніх сваіх шчырых нататак, каб вызваліцца з творчага прастою, да якога давялі выдавецкія ментары*» (У. Калеснік).

У. Калеснік, як вельмі нямногія даследчыкі, убачыў «*эстэтычна-выяўленчую закончанасць, самастойнасць і самацэннасць*» мініяцюр Я. Брыля ў той час, як некаторыя калегі-пісьменнікі іранізавалі, што кніга мініяцюр — нішто ў параўнанні з раманам… што мініяцюры не адпавядаюць мажнай постаці іх аўтара… Вылучаючы высокую мастацкую вартасць Брылёвых мініяцюр, У. Калеснік пераконваў: яны — нешта большае і іншае, чым дзённікавыя запісы, чым сучасная еўрапейская авангардысцкая проза; гэта — не мазкі імпрэсіяніста на палатне і «*не сімвалісцкія таемныя знакі… Цыклы мініяцюр і кнігі мініяцюр — гэта сістэма аб'яднаных гуманістычнаю ідэяй вобразаў і думак, афарызмаў і парадоксаў, назіранняў і выказванняў аб людзях і свеце, аб надзённым і вечным, аб чалавеку, яго мажлівасцях і немагацы*». У. Калеснік трапна акрэсліў сутнасць брылёўскага падыходу ў гэтым жанры да асобы чалавека як «*змястоўную адзіноту*», як сітуацыю медытацыі і самаацэнкі. Абодва пагаджаліся, што чалавек становіцца індывідуальнасцю ў калектыве, дзе кожны мае магчымасць «*адчуваць сябе суб'ектам, якога за нешта любяць, а за нешта асуджаюць… Калектыў, як і самота, могуць знішчыць індывідуальнасць і спрыяць… Калектывізм і індывідуалізм — падобна як і ўласнасць: нажытая сумленна выхоўвае, а накрадзеная — дэмаралізуе...*» (У. Калеснік).

*Над кнігай «Я з вогненнай вёскі» Янка Брыль працаваў разам з Алесем Адамовічам і Уладзімірам Калеснікам.*

Пісьменнік Я. Брыль, па слушным меркаванні У. Калесніка, быў «*вельмі чулы да грамадскай і жыццёвай каштоўнасці чалавечых схільнасцяў*», таму яго ацэнкі паводзін людзей даюцца «*паводле гуманістычнай стваральнай этыкі*» і «*выключна брылёўскай “саборнасці”*» ўспрымання свету. У сваіх даследаваннях аб творчасці сябра У. Калеснік паслядоўна і аргументавана прадставіў Я. Брыля ідэйным паслядоўнікам і вучнем вялікіх пісьменнікаў XIX ст. Л. Талстога і А. Чэхава. Адначасова даследчык выказаў, несумненна, слушнае меркаванне пра «*еўрапейскасць*» творчай постаці Я. Брыля, якая засведчана моцным гучаннем «*агульначалавечых быційных праблем і глабальных пытанняў сучаснасці*», таго, што грамадская думка назвала ў 80-я гг. мінулага стагоддзя «новым мысленнем».

Літаратары, даследчыкі творчасці Я. Брыля і ўсёй нацыянальнай літаратуры ў будучыні, як і ў нашы дні, абавязкова будуць пранікліва ўчытвацца ў глыбокія калеснікаўскія развагі аб сямейных і маральна-духоўных, светапоглядных вытоках творчасці народнага пісьменніка Беларусі, будуць захапляцца праніклівасцю, трапнасцю і афарыстычнасцю думак і выказванняў У. Калесніка аб творах Я. Брыля розных жанраў. Самыя дапытлівыя і ўдумлівыя знойдуць у высновах крытыка перспектыву да новых даследчыцкіх падыходаў, падказкі да абноўленага прачытання брылёўскай прозы — стылёва сінтэтычнай, філасофскай, лірыка-аналітычнай. Пісьменнік у творчай працы ўбачыў сэнс жыцця — жыць для людзей, быць «*сувязным паміж сваім народам і чалавецтвам, яго духоўнай скарбніцай*» (У. Калеснік).

Заўсёды будуць актуальныя маральна-філасофскія запаветы Я. Брыля пра неабходнасць памятаць, што жыццё дадзена толькі адзін раз, што нельга жыць як на вакзале — абы хутчэй прайшоў час; кожны з нас павінен ведаць, які цягнік твой і паспець на яго сесці; неабходна шанаваць і берагчы жыццё ва ўсіх яго праявах, жыць змястоўна… Разважаючы пра сэнс быцця, пісьменнік неадноўчы падкрэсліваў часовасць, абмежаванасць чалавечага жыцця на зямлі. Пры гэтым Я. Брыль заўважаў: «*Часовасць гэтую разумеюць па-свойму і мудрасць і дурнота. Адна стараецца насыціць яе, часовасць, мудрым зместам, а другая — схапіць хоць што*». А вось як інтэрпрэтуе і дапаўняе свайго сябра ў філасофскім дыялогу У. Калеснік.

*Каб пражываць змястоўна ўласнае адзінкавае жыццё, чалавеку патрэбна далучыцца да жыцця зборнага, грамадскага, сваяцкага, сяброўскага, нацыянальнага, агульначалавечага. Менавіта ў кантэксце жыцця ўсяго чалавецтва, якому няма канца, асоба можа пазнаць самую сябе, знайсці сваю мэту… Жыць для людзей, дзеля іх шчасця, прыносіць радасць творамі — усе гэтыя ідэі сваціелі Я. Брылю з юнацтва».*

Я. Брыль раіў сабе і ўсім, каму цікава прыслухацца да яго доследу: «*Мітусіцца не трэба, трэба аберагаць свой час, заўсёды, штодня нацэльвацца на галоўнае, зноў і зноў вучыцца… Трэба ўмець радавацца чужому поспеху. Думаючы пра поспех роднай літаратуры. Трэба… увесь час вучыцца гэтай радасці… сціпласці, адчуванню абавязку*».

Няма сумненняў, што неадноўчы Я. Брыль і У. Калеснік уступалі і ў вусны сяброўскі філасофскі дыялог пра сэнс жыцця, супастаўлялі меркаванні ідэалістаў і матэрыялістаў. І абодва пагаджаліся, што цалкам сэнс жыцця не спасцігнуты ні першымі, ні другімі і, думаецца, абодва адчувалі пэўную радасць ад яго неспазнавальнай глыбіні. Вось як пра гэта сведчыць У. Калеснік: «*Я. Брыль ведае людзей, якія пэўныя, што маюць канчатковую формулу сэнсу жыцця. На жаль, чым больш самаўпэўненасці ў гэтых людзей, тым больш беднасці, банальнасці ў іх формулах. Найбольш цяжкія выпадкі зніжэння сэнсу жыцця — гэта бездухоўнасць, звядзенне жыцця да клопату пра сытасць, камфорт, кар'еру.*

*Я. Брыль вядзе зацятую барацьбу з бездухоўнасцю і вульгарнай апушчанасцю, трыбушною люмпенізацыяй, бо чалавеку ўласціва прага духоўнасці і патрэба сцвярджаць сябе добрымі справамі, дасягаць этычнай высціні кожнага дня, кожнага кроку… Яго назіранні і роздумы — прыклад спажытковання здабыткаў уласнага і агульналюдскага духу для пераўтварэння чалавека ў Чалавека*».

Творчы дыялог гэтых сапраўды вялікіх, наймацнейшых сярод нас сваім духам людзей пераконвае, што былі яны носьбітамі ідэй аб людскім братэрстве і грамадскай гармоніі, «рыцарамі сумлення і свабоды» (У. Караткевіч).

І Я. Брыль, і У. Калеснік пакінулі нам мудрыя і мужныя парады, як годна жыць у маладым узросце і на апошнім этапе, калі чалавек набліжаецца да непазбежнага. Кожнаму варта павучыцца ў іх здольнасці парадкаваць уласную душу штодзень: не паддавацца плебейскай псіхалогіі самасуяў, пераадольваць у сабе зло. Маральны самакантроль і гуманістычная самаарыентацыя, як падказваюць сёння са старонак сваіх кніг Я. Брыль і У. Калеснік, дапамагаюць асобе знайсці месца ў агульначалавечай справе. Яны пакінулі нам веру, што гуманізм, маральнасць, краса свету і чалавека, ідэалы нацыянальнай дзяржавы і дэмакратызм з'яўляюцца трывалымі арыенцірамі для абнаўлення і самаразвіцця грамадства і чалавека, а значыць, і для кожнага з нас.

**Зоя МЕЛЬНІКАВА,**
**доктар філалагічных навук, прафесар,**
*г. Брэст*

# ВЕЧНАЕ ЖЫЦЦЁ Ў СЛОВЕ

**Раней у пісьменнікаў была прывілея — працаваць у рэдакцыях літаратурна-мастацкіх выданняў не поўны дзень, а тры гадзіны, з 14 да 17. Аднойчы на пасяджэнні рэдкалегіі часопіса «Полымя» Янка Брыль расказаў, што гэта менавіта яму ўдалося некалі пераканаць Машэрава ў такім графіку.**

— Пятро Міронавіч, — сказаў ён Машэраву пры сустрэчы, — у нас што, рэжымна-стратэгічны аб'ект? Хіба ў нас станкі, якія могуць стаць, ці сталеліцейная вытворчасць, якая спыніцца, калі ў домну не падкідваць вугаль? Рэдактарства — гэта творчасць, талент рэдактара ніколькі не меншы, чым талент пісьменніка, і, як любы талент, ён патрабуе адзіноты, ён падуладны натхненню, але ніяк не рэжыму. Рэдактары працуюць дома, і не восем гадзін, а, бывае, і шаснаццаць. У рэдакцыі ж можна толькі сустракацца з аўтарамі.

I закончыў гісторыяй, як у іх у польскай арміі быў надта прыдзірлівы капрал, які не стамляўся паўтараць: «Мне ўсё роўна, дзе, чым, у які час вы будзеце чысціць боты — абы яны блішчэлі!».

— Так і мы, Пятро Міронавіч, думаем: абсалютна няважна, колькі і дзе пісьменнік працуе — абы вынік быў. А ён ёсць — добрыя часопісы выходзяць, новыя выдатныя імёны з'яўляюцца, і ў выніку наша літаратура квітнее.

Машэраву так спадабалася пра капрала, што ён засмяяўся і махнуў рукой: рабіце што хочаце, «абы боты блішчэлі!».

— Зрэшты, — закончыў Брыль, — нашых цяперашніх гісторыяй з капралам не праб'еш...

***

Анатоль Сыс падпісаў яму свой «Агмень» так:

«Бога малю,
каб даў сто гадоў Янку Брылю».

Я сказаў Івану Антонавічу, што лічу гэта адным з самых лаканічных і цёплых у беларускай літаратуры аўтографаў.

— Нашто мне сто гадоў? — быў адказ. — Пажыў, і хопіць, трэба другім даць месца.

«Паміж смерцю ў 45 гадоў ці пазней — усяго толькі колькасная розніца», — пісаў любімы Брылём Талстой. Інакш кажучы: або жыць вечна, або — не так ужо і важна, колькі.

***

Янка Брыль нейкім чынам змог стварыць для сябе своеасаблівы мінізалаты век у літаратуры, здолеў усё, што трапляла ў поле яго зроку, падпарадкаваць любімай справе.

I праўда, як гэта здарова і зайздросна: пахадзіць па свежай пакошы, папіць у спёку халоднага малака нагбом з паліванай гладышкі, паслухаць рып маладога снегу пад нагамі, пасумаваць разам з жоўтым восеньскім лістом, памацаць у пальцах клейкую пахкую веснавую пупышку, пачытаць любімую кнігу, няспешна, роўным прыгожым почыркам запісаць усё гэта...

Не жыццё, а песня! А песні хіба можна адмераць мяжу, хіба не кашчунна акрэсліваць яе канкрэтыкай, нават такой, як цэлых сто гадоў?

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

# СУСВЕТ

**Сусвет Янкі Брыля для сябе я адкрыў яшчэ ў Пугачоўскай школе. Па школьнай праграме. Знаёмства было кароткім і не вельмі запамінальным, бо на кожным новым уроку мы рухаліся далей і далей па падручніку. Сёння адзін пісьменнік, праз пару дзён другі, а там трэці, чацвёрты, пяты, шосты, сёмы… I ўсё ж у душы заставалася святло ад прачытанага. Часцінка святла ад аднаго пісьменніка, ад другога, ад трэцяга, ад чацвёртага, і, глядзіш, ты ў сабе носіш вялікі сусвет беларускай літаратуры. Праўда, запраграмаваны. I толькі потым, ужо калі прыехаў у Мінск вучыцца, я мог спакойна і самастойна папаўняць свой літаратурны сусвет новымі пісьменнікамі і творамі. I сярод любімых пісьменнікаў быў нязменна Янка Брыль. Я палюбіў яго за мініяцюры, за дзённікавыя запісы. Бывала, што некаторыя з іх перачытваў па некалькі разоў на дзень і кожным разам адкрываў нешта новае. Адкрываў Беларусь.**

Самога Янку Брыля ўпершыню ўбачыў недзе гадоў трыццаць пяць таму. Магчыма, у снежні 1981 года, калі з Дома літаратара ехаў на семінар маладых пісьменнікаў у Каралішчавічы. А магчыма, на нейкай літаратурнай імпрэзе ці пасяджэнні ў Саюзе пісьменнікаў. Але гэта не галоўнае. Галоўнае — размовы з Янкам Брылём. Напачатку я нярэдка сустракаў Івана Антонавіча ў рэдакцыі «ЛіМа», куды прыходзіў з вершамі да Юрася Свіркі. А там у кабінеце з пэтам яшчэ працавалі Анатоль Сідарэвіч і Уладзімір Ягоўдзік. І вось Брыль з імі падоўгу гаварыў. Мне, маладому, слухаць было вельмі цікава. Бывала, Брыль і мяне падключаў да размовы. Пытаўся, як у нас у вёсцы якое слова гавораць, як мае дзяды жылі за Польшчай. І ужо калі я ў 1995 годзе прыйшоў працаваць у «ЛіМ», Янка Брыль заходзіў наўпрост да мяне. Ад Івана Антонавіча я даведаўся, што мая стрыечная сястра замужам за адным з яго пляменнікаў.

З Брылём было добра. Каля яго я адчуваў сябе хлапчуком, да якога прыйшоў дзед, каб даведацца, як тут ягоны ўнук расце. Брыль чытаў шмат. І мне прыемна было чуць ягоную ацэнку маіх новых публікацый у перыёдыцы. Праляталі дні, гады. І ўсё, што здавалася вечным, сыходзіла ў вечнасць. Я думаў, што Янка Брыль пражыве 100 гадоў. Памыліўся. 25 ліпеня 2006 года ў маім дзённіку з'явіўся запіс:

«Аўторак. Дзесяць дзён як у адпачынку. Ні хвілі не адпачываў душой — пішу вершы пра каханне і няма той мяжы, за якой няма рыфмаў. Люда з Веранікай у Чарнагорыі на моры. Хочацца, каб хоць яны адпачылі. Учора было 19 гадоў, як мы з Людай пажаніліся! Свята. Прыедуць дамоў, адзначым. А пакуль хваляванні, чаканні і вершы… Недзе ў гадзін 14 патэлефанаваў Леанід Галубовіч: "Ці праўда, што памёр Янка Брыль?" Памёр… Так ужо атрымліваецца, што кожнае лета, калі я ў адпачынку, даведваюся пра сумныя навіны. Калі былі на Нарачы — памёр Быкаў. Адным летам атамная лодка патанула, другім — Ельцын Белы дом расстрэльваў. Цяпер — Янка Брыль памёр. Не магу ўспрыняць яго смерць як трэба, бо і так спераджываўся…» У гэты ж дзень, 25 ліпеня, у мяне напісаўся верш:

## Балада Янкі Брыля

*А ён спакойна жыў… Памёр спакойна,*
*Як неба памірае над зямлёй,*
*Дзе цішыня, як шкло, дзе вечна войны,*
*Дзе рэчак вены з нашаю крывёй*
*Парэзаны, як брытваю, мяжой.*
*I неба зноў спатоліцца душой,*
*А нам, як свечкам, ля крыжа застацца*
*Пад сонцам, як пад божаю слязой,*
*Дзе толькі на сябе нам спадзявацца,*
*Бо аніхто, ніхто не дапаможа*
*Прайсці зіму і гэта бездарожжа,*
*Якім сябе мы часта суцяшаем,*
*I наша неба з намі памірае…*

*А ён пайшоў, як Заўтра памірае,*
*Дзе цішыня, як на іконе шкло,*
*Дзе жыў ён светла, дзе расце святло,*
*Дзе нашага і цэну не было…*

Працуючы ў «Мастацкай літаратуры», некалькі разоў рыхтаваў да друку творы Янкі Брыля. І сёлета да 100-годдзя з дня нараджэння пісьменніка ўклаў кнігу выбранай прозы, якую назваў «Яшчэ раз пра вечнае…». Складаючы томік, увесь час адчуваў прысутнасць Івана Антонавіча ў сваім кабінеце. Ён сядзеў насупраць мяне, сачыў за тым, што выбіраю для друку з ягоных тамоў, і ўсміхаўся. Мне з Брылём, як з аўтарам новай кнігі, было добра працаваць. І кніга «Яшчэ раз пра вечнае…», па-мойму, атрымалася цудоўнай. Яна выйдзе ў свет неўзабаве, у жніўні.

## ЖНІВЕНЬ ЯНКІ БРЫЛЯ

*тваё жніво пачалося ля мора*
*далёка ад роднай зямлі*
*зямлі дзе птушкі і гнёзды*
*чакалі цябе*
*і нёманскія казкі*
*у затоках рачных*
*жылі ў гарлачыках белых*
*як перліны ў ракавінках*
*і чакалі цябе*

*і ты прыехаў*
*і ў Забалацці стала днець*
*і ў золак, убачаны здалёк,*
*ты сыпануў жменю сонечных промняў*
*як спелых каласоў*
*і асвяціліся*
*сцежкі дарогі прастор*
*і сівыя валуны і курганне*
*і рэшткі замкаў княства*
*Вялікага Княства Любові*
*і сонца ўзышло высока*
*над мілым Загор'ем*
*і сонца было тваім*
*як маміна песня*
*як бацькава слова*
*як дзедава малітва*

*і ты слухаў вечнасць*
*у пошуме траваў і дрэваў*
*і кожны твой жнівень*
*быў Храмам*
*у якім тваё вітражы*
*створаныя з любові і жалю*
*напаміналі ўсім*
*што ёсць Вера Надзея Любоў*
*і Каханне*
*і сірочы хлеб*

*і вераснёвая рунь*
*затапляла твой свет*
*па якім ты ідзеш*
*як Ной тутэйшы*
*у якога ёсць каўчэг*
*і акраец хлеба*
*каб усіх пакарміць*
*і даць Слова*
*якое было ёсць і будзе*
*як жнівень*
*калі ты пачуў*
*крык чаек над морам*
*далёка ад роднай зямлі*
*дзе цябе ўжо чакалі*
*і птушкі і гнёзды*
*і нёманскія казкі*
*і людзі*

**Віктар ШНІП**


Фота Кастуся Дробава.

**Да 100-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля выдавецтва «Мастацкая літаратура» падрыхтавала падарункавае выданне «Яшчэ раз пра вечнае», у якое ўвайшлі аповесці «Золак, убачаны здалёк» і «Сірочы хлеб», а таксама некаторыя апавяданні, мініяцюры і запісы з багатай спадчыны класіка. Кніга неўзабаве з'явіцца на паліцах кнігарняў. А сёння ў чытачоў «ЛіМа» — унікальная магчымасць пазнаёміцца з некаторымі запісамі, змешчанымі ў кнізе.**




***

Навокал дрэвы, — і тут, на ўзлеску, і трохі воддаль, над Нёманам, — а бусліная пара, замест дуба ці ліпы, выбрала проста слуп, пашарэлы ад слотаў ды маразоў невысокі слуп электрасеткі. Драўляны, вядома, з разгірачанымі ўпорынамі, бо стаіць ён на крутым павароце лініі дратоў, што ідуць-вісяць ад вёскі да трох гарадскіх лецішчаў.

На слупе над дарогай — навалач голля, якое і звісае, і тырчыць канчарамі, а над гэтай вялізнай, непрычасанай чупрынай ужо самавіта, па-сямейнаму вытыркнуўся тонкі трохкутнік белай шыі і чырвонай дзюбы. Мусіць, у матчыным клопаце села сама гаспадыня, а гаспадар кудысьці паляцеў, таксама ж не так сабе.

Каля такога дзіва, убачанага мною ўпершыню, ісці захацелася асцярожна.

Другім ранннім ранкам, калі і ён, гаспадар, стаяў на ўскрайку гнязда, я не вытрымаў, павітаўся: «Здароў!» А буська ў адказ недаверліва падзюбаў паветра доўгім чырвоным вастрыём у адзін, у другі бок, яшчэ і яшчэ павагаўся, што рабіць, і ўсё-такі, нібы з натугай, замахаў прыгорблена крыламі, пашыбаваў у большую свабоду, над краем поля да ракі, за якою, ажно да пушчы на даляглядзе, адно луг ды луг.

А поле, вялікі клін паміж лесам і Нёманам, сёлета пад лёнам. Ён яшчэ толькі ўзышоў, зарунеўся. Канец мая, блакітная радасць ільнянога росквіту — наперадзе. Падзедаўску шчасліва думаю: калі прыедуць школьнікі-ўнукі.

Пераехаўшы з горада днямі, я так вось і пакланіўся роднай красе, — і каля дзіўнаватай буслянкі, і далей на дарозе, калі пастаяў пад разбукечанай крывуляй сасной, што адна пры дарозе ад поля, уся ў румяным ранішнім сонцы, таксама ж красуня — кронай у чыстым блакіце, а медным ствалом на фоне пяшчотнай ільняной зеляніны.

***

Гумар, калі зусім няма чаго рабіць, а чакаць, у гэтым выпадку аўтобуса, трэба. Вось горба смецця амаль каля самага Нёмана, а на ёй — атопак-чаравік.

— У раку яго, хай плыве, — кажа адзін, а другі:

— Ну, хоць свету пабачыць.

Калісьці Вітас Пяткявічус у інтэрв'ю «Литературной газете» гаворку закончыў тым, што, адышоўшы ад палітыкі, паедзе на сваю далёкую дачу і будзе сталярыць, «чтобы не сойти с ума». Я адыходжу не ў сталярку, а зноў ды зноў у добрую кнігу, у працу літаратурную, якая ў мяне не які-небудзь адыходны промысел ці славутае хобі, але адзіная справа жыцця.

***

Упадарожжы па Гомельшчыне (для «Я з вогненнай вёскі...»), калі мы на Калеснікавым чырвоным «масквічы» ўехалі ў Мележавы Глінішчы, нас запыніла вялізная чарада гусей. Разгегаліся, а ўцякаць ані думаюць. Тут наш Валодзя выбухнуў за рулём: «Гусей праганіце!..» А чародка жанчын, што сама разгаманілася поблізу, адказала — таксама з гонарам: «А мы вас не ведаем...».

Потым у Мінску Іван Паўлавіч, калі мы расказалі яму пра гэта, задаволена смяяўся, рады, здаецца, не толькі за жанчын, але і за гусей.

***

Максім Гарэцкі, дадатковы, пяты том твораў, «Літаратурная крытыка і публіцыстыка». Сярэдняя каморніцкая адукацыя. А ўся культура — ад таленту і працы над сабой. Яшчэ адно выдатнае сведчанне, як гэта важна для сапраўднага літаратара. Перачытваецца нават крытыка, чаму, відаць, садзейнічае і прысутнасць аўтара ў яго свабодзе, хоць і няпоўнай, падыходу да роднай літаратуры. Гэтым ён мне нагадвае Юльяна Кшыжаноўскага, які ўмеў гаварыць праўду, хоць і прыкрую, і жывым ды вядомым. Дакрананне да гэтай душы дапамагае трымацца на годным узроўні. Бедная родная хатка на фотаздымку і родная вёска, якую мне давялося бачыць двойчы. Цяпер, успамінаючы іх да шчымоты сэрца, можна гаварыць і пра народнасць Гарэцкага, і пра здзіўляючы цуд ягонага ўзлёту на вышыні агульналюдской культуры, і пра трагедыю ды злачынства — замучыць, замардаваць такога чалавека і літаратара на сорак пятым годзе жыцця!..

Дзеля належнай арыентацыі ў злобе нашых дзён такое трэба памятаць.

***

Калі мне было і шэсцьдзясят, і пяцьдзясят, я рабіў штосьці як на адчэпнае, як прыблізнае, — такое было адчуванне... Падумаў так, чытаючы Брэдберы, успомніўшы той час, калі мы летавалі ў вёсцы ў гаспадара і я пісаў «Гіпноз», «А-я-я-яй!», «Сумленніцу», вёў запісы. А быў жа мой час і ранейшы, і пазнейшы, і было ў кожным часе сваё прыблізнае, з чаго і складаецца творчы набытак, — не той, якога спачатку хацелася.

***

Ад кожнага літаратурнага пакалення патрабуецца ў творчасці новае — за любую цану.

Ад кожнай чарговай вясны чагосьці небывалага не патрабуем, абы толькі яна была сама сабою.

***

Паэтка, гадочкаў пад пяцьдзясят, спакойна, з усмешкай кажа мне, што прозы яна наогул не чытае — толькі вершы. Наколькі лягчэй жывецца!..

***

Звычайная фраза, у аснове англійская, у перакладзе руская: «Но пришло время возвращаться домой при бесстрастном свете звезд...». Гэта ў рамане Эліёта «Млын на Флосе», разгубленасць маладога джэнтльмена, шчаслівага жаніха адной прыгожай лэдзі, які нечакана пачаў закохвацца ў другую лэдзі. Ён збянтэжаны, а зоркі *бесстрастные*, як «равнодушная природа», якой і належыцца «красою вечною сиять». Колькі



ўсяго ад аднаго, па-мастацку дакладнага слова! Тут я не толькі Англію бачу, не толькі Пушкіна згадаў, але і сваё далёкае жыва адчуў. Як вяртаўся познім вечарам з суседняй вёскі Качаны, як узыходзіў з вялікай даліны на гару, палістападаўску аголеную ад вяснянай зеляніны і летняй жаўцізны, зноў заараной пад будучы хлеб. Ішоў няспешна і лёгка, з паэзіяй у юнацкай душы і з неабдымным, родна зорным небам нада мною... Зямля, планета, таксама неабдымная, у кожнага з людзей свае даліны і ўзгоркі, свая хада па іх, а неба, зорнае неба — адно...

Ну вось, яшчэ і Кант сюды міжволі дадаўся, так да яго падышлося...

***

І цяпер, чытаючы Борхеса, і раней, над старонкамі Картасара, Зюскінда, адкрываючы іншыя імёны, зачежныя і свае, думалася, якое мноства людзей на ўсім свеце пісала і піша, і гэта маючы на ўвазе толькі таленавітых. І не страшна яно, калі ў цябе ёсць душэўная, унутраная патрэба сказаць і сваё. Хоць і ў нашым моўным закутку, з абмежаванасцю выхаду ў людзі ў належным, непасрэдным перакладзе.

***

Востра адчулася, што мае, у той ці ў іншай меры аўтабіяграфічнае, перш за ўсё «Птушкі і гнёзды», трэба было напісаць з усёй безагляднай, бязлітаснай шчырасцю, чаго я не зрабіў на ўсю моц, а з той асцярожнасцю, аглядкай, з тым страхам, які абумоўліваў і мой сацрэалізм...

Літаратарам-прафесіяналам я стаў дзякуючы ўваходу ў савецкую рэчаіснасць, то па наіўнай шчырасці, то з патрыятычнага абавязку вучачыся стаць, быць савецкім пісьменнікам, бо іншым быць і не мог. Калі б вайна, аб'яднанне Беларусі адбыліся гадоў на дзесяць пазней, я, жывучы ў Заходняй, застаючыся селянінам, можа, і змог бы стаць, як літаратар-саматужнік, у пэўнай меры значным ці прыкметным сваёй шчырасцю, праўдай жыцця, аднак — гэта ж толькі калі б...

***

Ідучы з рэдакцыі на метро, а не пяшэчкам, як раней ішлося дахаты па парку, скардзіліся з сябрам на ногі, кожны на свае. І я расказаў, як у пачатку 1973-га на лясных, глыбокаснежных ваколіцах друскеніцкага санаторыя «Беларусь» я выходжваў штодня каля пяці гадзін — уранні, пасля абеду, увечары.

На ўступным медаглядзе трэба было падзьмуць у спецпрыладу для вымярэння аб'ёму грудзей. Ніяк не ўспомню назвы тое прылады, падобнай да высокай бляшанай банкі з накрыўкай. Сярэдняя колькасць адзінак вымярэння дыхання — 4500. Я столькі і выдзьмуў, без асаблівай натугі. А праз месяц, перад ад'ездам, зноў трэба было падзьмуць. І дзьмухануў я так, што ажно пакрыўка з тое прылады падскочыла і бразнулася аб падлогу, нават трохі пакаціўшыся, пакуль легчы. На здзіўленне пажылой медсястры, — больш за шэсць тысяч адзінак, на якія разлічаны той вымяральнік.

Такія ногі ды грудзі бываюць у свой час.

***

Вячэрняе бойкае вогнішча. Самотна высокі, няпоўны месяц на другой квадры. Скрылікі сала і лустачкі хлеба на ражэнчыках. І салаўі ў цёмнай надрэчнай гушчэчы. Спачатку далекавата, а затым спакваля бліжэй, бліжэй, як быццам зацікаўленыя вогнішчам. Тое, што потым, здалёк успамінаецца як шчасце.

***

Наша Крынічнае. Да ўсяго прывыкаеш. Салаўёў яшчэ застаў, але запісваць не пацягнула. А жураўліны пераклік за Нёманам, дзе лугі тым ча сам дружна пайшлі ў зеляніну ад начных і дзённых дажджоў, чую кожную раніцу з дарогі ў пасёлак, як быццам без хвалявання, як штосьці звычайнае, неад'емнае.

Што ж, на дванццатай тут вясне.

* * *

Васіль Зуёнак, якому я падпісаў свой «кнігазбораўскі» том, пры наступнай сустрэчы нават ухвальна здзівіўся: «А колькі ж вы ўсяго запомнілі!..» Не хапіла духу адказаць: «А колькі ж я дадаў героям ды сітуацыям выдумкі, свайго!» Бо ёсць жа гэта, дый нямала, і ў гэтым ужо мая патаемная радасць: пападаць у тон, прыдумляць адпаведнае. А гаварылася пра «Ніжнія Байдуны».

***

Шэсцьдзясят пяць Стральцову. Было б...

Нашы надзеі, нашы прароцтвы збываюцца, — зноў і зноў нас палоняць, хвалюючь свежасць і краса, глыбіня і сіла мастацкага слова, радасна бачыцца яго пераможная хада ў будучыню, дзе забяспечана адпаведнае разуменне і гордая пашана.

Над старонкамі Міхасёвага аднатомніка, які ўранні гартаю перад вячэрнім выступленнем, успамінаецца Рыгор Раманавіч Шырма, пра якога і я гаварыў нядаўна на святкаванні яго юбілею ў сціплай утульнасці кінатэатра «Змена». Перачытаў і ўступны артыкул Адамовіча, можа, больш чым у іншых выпадках у Алеся разумны і востры.

Нібы нават убачылася, як усе яны, натуральна аддаляючыся, кожны з часам свайго адыходу, — Шырма, Стральцоў, Адамовіч, — усталёўваюцца ў нашай народнай гісторыі, у няспешнай чарзе за іншымі, несакрушальна абаронччымі вежамі, нязгаснымі маякамі і, як сказала ў сваім нядаўнім газетным выступленні таленавіта-ціхая Марыя Вайцяшонак, нашымі храмамі, «которые видны из многих точек света».

# ПАДАРУНАК

Калі мяне забіралі ў войска, я ўзяў з сабой дзве кнігі: «Выбранае» Янкі Купалы і «Золак, убачаны здалёк» Янкі Брыля. Захоўваў гэтыя кніжкі ў кардоннай тэчцы разам з фотаздымкамі жонкі, бацькоў і лістамі з радзімы. За тыя паўтара года службы я так зачытаў гэтыя кніжкі, што сёння яны ў хатняй бібліятэцы самыя непрывабныя...

Упэўнены, калі б Янка Брыль нарадзіўся гадоў на трыццаць — сорак пазней, то сёння, са сваёй сціслай лірычнай прозай, мог быць вельмі папулярным блогерам. Ён — вялікі пісьменнік, які ўмеў выкладаць свае назіранні і думкі коратка і ясна, але паэтычна.

Найчасцей я сустракаў Івана Антонавіча ў бібліятэцы Саюза пісьменнікаў. Ён з'яўляўся ў другой палове дня, займаў столік пры акне, вешаў на спінку крэсла пінжак, абкладаўся часопісамі і газетамі — чытаў перыёдыку. Калі ў ціхую бібліятэку нехта ўваходзіў, ён паварочваў сівую галаву, вітаўся, часам уставаў, каб паціснуць руку. Адразу рабіўся манументальным.

Аднойчы я забег памяняць кнігі. Бібліятэкаркі на месцы было. Брыль пацікавіўся, што я чытаю. Дзве кнігі адразу адклаў, ён іх ведаў, трэцяя ж зацікавіла. Ён хмыкнуў і прызнаўся, што не чытаў.

Потым Ніна Уладзіміраўна Глобус сказала, што Іван Антонавіч папрасіў запісаць тую кнігу яму ў фармуляр, каб узяць дамоў.

Янка Брыль — выдатны пісьменнік і вельмі разумны чытач. У яговых запісах амаль паўсюль трапляюцца назіранні і развагі пра кнігі, якія ён чытаў і чытае. І, што самае цікавае, ён чытаў не толькі сваіх аднагодкаў і пісьменнікаў вядомых, але і моладзь, як маіх равеснікаў, так і маладзейшых. Яго хвалявала, куды рухаецца маладая беларуская літаратура.

Напрыканцы 1990-х мы сустрэліся ў калідоры рэдакцыі часопіса «Полымя». Брыль у прысутнасці іншых літаратараў з усмешкай паціснуў мне руку, чым моцна збянтэжыў. Пацікавіўся, ці ёсць у мяне трохі вольнага часу, каб прайсціся да яго дома. Я захваляваўся. Сказаў, што часу ў мяне мора.

Восень. Цёпла. Лісце сухое шамаціць. Мы павольна ідзём сонечнай вуліцай. Высокі, манументальны Янка Брыль і я.

Спачатку ён маўчаў. Мне думалася і хацелася, каб ён пагаварыў пра літаратуру, адкрыў якую таямніцу, але пісьменнік пачаў распытваць: пра бацькоў, адкуль яны родам, чым займаюцца. Пра гарадскі пасёлак, дзе я нарадзіўся, пра аднакласнікаў, пра тых, з кім сябрую ў Мінску і якія кніжкі цяпер чытаю, дзе жыву. Нават пацікавіўся, чым займаецца жонка. Мы ішлі павольна, часам Іван Антонавіч спыняўся, уздыхаў і казаў, што ён зноў перачытвае класіку, што кожны год трэба здымаць з паліцы кнігі мінулых стагоддзяў... Прапанаваў зайсці да яго. Я ж, хоць і быў запрошаны, не пайшоў, бо не хапіла смеласці. Занадта вялікай здавалася адлегласць паміж намі, а скарацiць яе я не наважыўся…

У 2006 годзе, звычайнай суботняй раніцай, затрашчаў тэлефон. Я зняў слухаўку і пачуў голас Янкі Брыля. Ён павіншаваў з Новым годам мяне і ўсю сям'ю. Сказаў, што прачытаў у часопісе тры апавяданні. Стрымана пахваліў. Потым пацікавіўся, а чаму так рэдка выходзяць публікацыі. Уцямна адказаць не атрымлівалася, я нешта мармытаў: блытана, па-дзіцячы. Брыль спыніў: «Уладзімір, паслухайце мяне, пішыце штодня, а пра публікацыі і кніжкі не думайце. Пішыце хоць па некалькі сказаў. Пішыце пра тое, што адчуваеце, што бачыце вакол... Пішыце, гэта — самае галоўнае!». Нават голас яго змяніўся, зрабіўся больш гучным і ўпэўненым, як у школьнага настаўніка…

Я стаяў перад акном з тэлефонам у руцэ. Глядзеў на зімовы горад, на Купалаўскі сквер, засыпаны снегам, і думаў, што там, далей, за дзіцячым паркам, на вуліцы Пуліхава, жыве вялікі беларускі пісьменнік — Янка Брыль. Можа, ён і не думае больш пра нашую тэлефонную размову, а сядзіць сабе за пісьмовым сталом і піша. А я ўсё стаю перад акном, як дзіцёнак, якому пашчасціла атрымаць падарунак. Такі падарунак, пра які ён і марыць не мог.

**Уладзімір СЦЯПАН**




*Фотапаштоўка мястэчка Турэц (цяпер Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці), дзе Янка Брыль вучыўся ў сямігадовай польскай школе. Фатограф Аляксандр Цітавіцкі. 1936 г.*

# На вяршыні досведу

Справа мастацкага перакладу была неад'емным складнікам пісьменніцкага служэння Я. Брыля. Першай перадумовай для гэтага стала фарміраванне асобы юнака ў спецыфічным асяроддзі Заходняй Беларусі 1920 — 1930-х гг. — на складаным этнічным і культурным скрыжаванні. Будучы пісьменнік вучыўся ў польскай школе і вынес адтуль захапленне польскай класічнай літаратурай, з якою знаёміўся на мове арыгінала. Аднак яшчэ раней маці навучыла малодшага сына чытаць па рускім буквары. Так ён пачаў самастойна далучацца да спадчыны А. Пушкіна і М. Гогаля, І. Тургенева і Л. Талстога, А. Чэхава і М. Горкага. Іншы раз тут даводзілася мець справу з перакладамі. Так, Ф. Дастаеўскага вясковы аматар літаратуры ўпершыню змог прачытаць толькі па-польску.

Звяртаючыся да суседзяў альбо ў прыватную бібліятэку ў мястэчку, юны кнігалюб пазнаёміўся з украінскай літаратурай і аваладаў мовай, чытаючы ў арыгінале Т. Шаўчэнку, М. Кацюбінскага, І. Франка. Відавочна, тут праявілася прыродная здольнасць Я. Брыля, як і пазней, калі за два гады, не па сваім жаданні праведзеныя ў Германіі (1939 — 1941), малады чалавек у некаторай ступені навучыўся разумець і гаварыць па-нямецку. З цікаўнасцю ён прыслухоўваўся да разнамоўнай гаворкі інтэрнацыянальнага насельніцтва лагераў для ваеннапалонных, запамінаў выразы, прыказкі, урыўкі песняў. А гэта, у сваю чаргу, давала багаты матэрыял для параўнальных назіранняў, развівала чуйнасць да слова і яго выяўленчых магчымасцей, тым больш што хлопец ужо свядома звязаў свой лёс з літаратурай, нават марыў надрукаваць першы зборнік твораў па-беларуску.

Перад тым былі, паводле пазнейшага прызнання майстра, «дзесяць гадоў неспакойнага трымкання на трох мовах адразу» («Думы ў дарозе», 1962). За самаіроніяй тут прыхавана, але не траціць сур'ёзнасці і глыбіні праблема: таленавітаму юнаку няпроста давалася ўсведамленне сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, аднак ён ужо разумеў, што без гэтага яго мара пра літаратурную творчасць не можа спраўдзіцца.

Як сталася, што, знаходзячыся ў моцным полі прыцягнення рускай і польскай культур, малады Я. Брыль усё ж зрабіў выбар на карысць айчыннай? У цытаванай вышэй аўтабіяграфіі «Думы ў дарозе» пісьменнік тлумачыў: «Апавяданне "Марыля" было пачата па-руску. Потым, адчуўшы па-сапраўднаму, што "кожная бочка павінна стаяць на ўласным дне", перапісаў на мову родную». Як бачым, пераходу ў прастору беларускай літаратуры дапамаглі таксама спробы аўтаперакладу. І не толькі. У эсэ «Быць чалавекам» (1967) Я. Брыль прызнаваўся, што «на шаснаццатым годзе жыцця меў намер ні больш, ні менш, а пакінуць людзям свой запавет <…> — з самай высокай мэтай, для ачышчэння і падмацавання духу». Дзеля гэтага хлопец «увечары, пасля баранавання ці малацьбы, — проста ў малітвенным настроі перапісваў з кніг прыгожыя, глыбокія мясціны. <…> Маім, да хвалявання, да слёз маім здавалася чужое, якое ад таго, што я яго перапісаў, а то яшчэ і з польскай мовы перакладу...»

Перакладаў Я. Брыль таксама з рускай — і, натуральна, на мову родную, што і дапамагло яму канчаткова ўсвядоміць сваё прызванне беларускага пісьменніка. Прычым у першых эксперыментах будучаму мастаку слова было на што арыентавацца. У эсэ «Пасля лемантара» (1980 г.) пісьменнік з удзячнасцю ўспамінаў сваю кніжку для школьнага чытання «Родны край», складзеную, дарэчы, віленскай настаўніцай Л. Гарэцкай, дзе змясціліся: «Тургенеў — "Гора" ("Шчи"), Чэхаў — "Іванька", Гаршын — "Жаба-падарожніца" і "На полі бойкі" (урывак з апавядання "Чатыры дні"), Ажэшка — "Рэха", Тэтмаер — "Успаміны", Канапніцкая — "Як кароль у паход выходзіў"… Да рускіх і палякаў — сусветна любімы датчанін Андэрсен — "Каралеўская вопратка"; "Апошняя лекцыя" француза Дадэ; "Дарагія грошы" — украінскае, "Горкі смех" — яўрэйскае». Усё гэта па-беларуску, побач з творамі Багушэвіча, Бядулі, Цёткі, Багдановіча, Купалы і Коласа.

Любімыя фрагменты, напрыклад, з М. Гогаля, перакладаліся спачатку «для сябе», дзеля шчасця набліжэння да шэдэўраў літаратуры, але хутка аматар выйшаў на шырэйшую аўдыторыю. Так, для вясковай самадзейнасці ён пераклаў камедыі Л. Талстога «Першы гарэльнік» і «Ад яе ўсе якасці». Маладому чалавеку важна было такім чынам прыняць удзел у талстоўскай справе народнай асветы, выхавання і творчасці. Я. Брыль успамінаў: «Непісьменнасць кампенсавала непасрэднае, надзённае, як сумленна зароблены хлеб, — народнасць мовы. "Набічкавалі поўнае гумно снапоў", "заплужыў балота", "узвіндаваўся з печы", "кастагрыз ты стары!", "няхваля цябе паднясла" <…>. Дазволю сабе прывесці і спробы пошукаў творчага перакладу: "Я всякого переспорю, потому я сам с усам!" — "Я кожнаму горла заткну, бо над мяне няма мяне!", разухабістае рускае "Ходи изба, ходи печь, хозяюшке негде лечь!" і наша, не слабейшае — "І скачацца, і хочацца, і вусцілкі валочацца!.."» («Пасля лемантара»).

Як бачым, малады Я. Брыль, вырашаючы пераважна практычныя задачы, трымаў у полі зроку і ўласна мастацкі аспект перакладчыцкай працы. Ён адчуваў абмежаванасць перакладу літаральнага, шукаў у роднай мове і нават у мясцовай гаворцы адпаведнікі не меншай вобразнай і эмацыянальнай экспрэсіўнасці. Не заўсёды хапала пачуцця меры, аб чым папярэджваў, напрыклад, паэт і рэдактар Янка Патаповіч, калі ў лісце ад 10 сакавіка 1939 г. адгукаўся на Брылёў пераклад апавядання У. Гаршына «Чатыры дні»: «Цэлая бяда ў тым, што ты хацеў і хочаш "упростить" Гаршына, хацеў яго, як ты сам выражаешся, "апрацаваць". І вось іменна гэта выйшла не на карысць перакладу» («Над фотаздымкам», 1994).

Крытык, верагодна, меў рацыю, аднак няма падстаў сумнявацца ў добрых намерах літаратара-самавука, які і такім чынам спрабаваў праявіць самастойнасць. Не без уплыву талстоўства ён імкнуўся наблізіць іншамоўны твор да ўспрымання суайчынніка селяніна, бо такі тып мыслення здаваўся яму характэрным для беларускай літаратуры. Аднак хутка Я. Брыль зразумеў, што надзённай мэтай нацыянальнага прыгожага пісьменства з'яўляецца якраз пераадоленне абмежаванасці кругагляду ды правінцыйнасці.

На вяршыні набытага досведу і майстэрства Я. Брыль прызнаваў справядлівасць высновы А. Твардоўскага: «калі арыгінал — расквітнелы луг, дык пераклад — сена». Але адсюль вынікае толькі тое, што трэба дасканаліць нацыянальныя перакладчыцкія традыцыі, бо гэта спрыяе развіццю ўсёй айчыннай літаратуры. Таму мастак ахвотна перакладаў, кожны раз сціпла падкрэсліваючы, што ён тут не прафесіянал (у адрозненні, скажам, ад Ю. Гаўрука, Я. Семяжона ці В. Сёмухі), кіруецца выключна любасцю да літаратуры, прыязнасцю, а то і адчуваннем творчай блізкасці да некаторых польскіх (Э. Ажэшка, Б. Прус, М. Канапніцкая, Я. Івашкевіч, В. Жукроўскі), рускіх (А. Чэхаў, У. Караленка, М. Горкі, К. Паўстоўскі) ды ўкраінскіх (А. Вішня, А. Даўжэнка, В. Казачэнка) пісьменнікаў. Тым не менш Я. Брыль актыўна ўдзельнічаў у нарадах перакладчыкаў, наладжваў падрыхтоўку і выданні перакладаў польскай літаратуры ў Беларусі, беларускай — у Польшчы. Ён пільна сачыў за лёсам уласных твораў на іншых мовах, быў удзячны такім руплівым рускім перакладчыкам, як А. Астроўскі ці Д. Кавалёў, і сам нямала працаваў над аўтарызацыяй тэкстаў. Усё гэта з высакароднай мэтай: «Трэба, каб нас ведалі ў свеце!»

Перакладчыцкая дзейнасць дазваляла Я. Брылю пашырыць уласны творчы дыяпазон. Так, ён даволі хутка зразумеў, што сам, напэўна, ніколі не напіша п'есу, аднак «"Стары новы год" Рошчына перакладаў па просьбе купалаўцаў, "Святая святых" Друцэ — па просьбе і самога яго, <…> "Вішнёвы сад" — з сімпатыі да коласаўцаў». Хоць час ад часу вярталася сумненне, «ці трэба мне займацца гэтым <…>. Зноў як быццам кажу сам сабе, што больш не буду, што буду рабіць толькі сваё» («Свае старонкі», 1980). Але менавіта як быццам, бо лепш за многіх Я. Брыль разумеў, што гэта таксама творчая праца і што радасць яна прыносіць, як, напрыклад, удалы пераклад у 1995 г. верша І. Буніна «И цветы, и шмели…».

Яшчэ адна крыніца радасці — магчымасць задумацца над параўнаннем перакладу з арыгіналам альбо «асцярожна папесціць родным словам» («Нясмешны Гогаль», 1988) упадабаны фрагмент іншамоўнага твора, каб потым падзяліцца знаходкамі праз лірычныя запісы. Плённы вынік колішняй напаўдзіцячай задумы! «Вуснамі немаўляці», а дакладней — трынаццацігадовага ўнука, быў дадзены і адказ тым, хто сумняваўся ў «рэнтабельнасці» справы: «Добра перакладаць на нашу мову і рускую класіку трэба для будучыні, калі нашы школы падрыхтуюць нацыянальна свядомага чытача. Так і я думаў днямі», — запісаў Я. Брыль у 1995 г. З аптымізмам, без якога нельга быць беларускім пісьменнікам.

**Вольга НІКІФАРАВА,**
**кандыдат філалагічных навук**

# СУСВЕТНАЕ СОНЦА БЕЗ ХМАР

Пра народнага пісьменніка Беларусі Янку Брыля не скажаш, што ён быў абыдзены ўвагай улады і, маўляў, не меў прызнання ў тых калідорах, дзе некалі праграмавалася і грамадскае, культурнае, літаратурнае жыццё нашай Айчыны. Не, было званне народнага пісьменніка, былі дзяржаўныя ўзнагароды — пачынаючы ад Сталінскай прэміі 1952 года (Дзяржаўную прэмію БССР «выдзелілі» ўжо ў 1982 годзе, за аповесць «Золак, убачаны здалёк», калі нельга было не даць, — і па гадах, і па вазе прызнання ў асяродку калег, па вазе прызнання ў чытачоў)… А яшчэ ж ордэны — два Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэн Дружбы народаў, «Знак Пашаны»… Народнага пісьменніка Брылю прысвоілі ў 1981 годзе. Але хто памятае той час, пэўна ж, пагодзіцца: прызнанне ў значнай ступені вымушанае. Мяркуйце самі. Народны пісьменнік Міхась Лынькоў, напрыклад, толькі Героя Сацыялістычнай Працы не атрымаў, а так — тры ордэны Леніна, тры ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга…

Янку Брыля чытала ўся Беларусь. Майстра лірычнай прозы, які наўмысна не арыентаваўся на эпапеі, не гвалтаваў свой талент, чытаў, лічы, увесь свет. І гэта таксама патрабавала ад улады ўсё ж такі прызнаваць яго талент, лічыцца з маштабам яго ўласных эстэтычных, мастацкіх перакананняў.

Болей як 100 кніг прозы народнага пісьменніка Янкі Брыля пабачылі свет у розных краінах свету. Тыповы беларус, чалавек, які першыя ўрокі выхавання і юначага сталення атрымаў «за польскім часам», быў цэментуючым стрыжнем беларускай нацыянальнай літаратуры, якога нельга было абысці…

Пра кнігі Янкі Брыля, выдадзеныя за межамі Беларусі, пра пераклады і перакладчыкаў яго прозы і хацелася б крыху згадаць у гэтыя юбілейныя дні. Амаль што сухая статыстыка: карыстаючыся біябібліяграфічным слоўнікам «Беларускія пісьменнікі» (том першы, выданне «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі», 1992 год), удакладняю: у Расіі і Беларусі на рускай мове пабачылі свет 47 кніг Янкі Брыля. З іх 9 выдадзена ў Беларусі. Зразумела, за апошнюю чвэрць стагоддзя, да часу, як пішуцца гэтыя радкі, мяркую, мала што змянілася.

Для параўнання: у Польшчы выдадзена было з 1953 (першая кніга на рускай мове ў суседняй краіне ў Івана Антонавіча выйшла ў 1951-м) да 1989 года 9 кніг. І гэта пры ўмове, што колькасць публікацый у перыёдыцы прыблізна гэткая ж, як і колькасць публікацый у рускамоўных часопісах і газетах (сярод якіх, зразумела, не толькі тыя, што выдаваліся ў Маскве, але і публікацыі ў часопісе «Нёман», «Сельской газете», напрыклад). Так. Дзевяць «польскіх» кніг Янкі Брыля не чатыры дзясяткі, якія выдадзены парускі. Але знак роўнасці можна смела ставіць. Варта разумець усе складанасці, звязаныя з тым, што Польшча ў адрозненні ад Расіі таго часу была іншай краінай, няхай сабе і краінай-суседкай, няхай сабе і краінай сацыялістычнага лагера. У Польшчы, дарэчы, і перакладчыкаў у Брыля, мусіць, шмат болей, а не адзін Арсеній Астроўскі, у перакладах якога на рускую мову і выйшла асноўная колькасць кніг у Маскве і Мінску (як мінімум — два дзясяткі «з хвосцікам»)… З палякаў Янку Брыля перакладалі М. Кановіч, Т. Гушча, С. Яновіч, Ч. Сенюх… А колькі рэцэнзій, водгукаў мела літаральна кожная кніга!.. Ды і ўвогуле пісалі пра Янку Брыля не шмат меней у Польшчы, чым у Расіі… Крый божа, гэта не супрацьпастаўленне!.. Тым болей, нават зазірнуўшы ў многія мініяцюры народнага пісьменніка Беларусі, можна ўбачыць, як чула, як паважліва ставіўся Янка Брыль да рускай літаратуры, рускай культуры, да Расіі. Тым болей, што… Але працітую «падарожнае» з Брыля па-руску: «Снова заходил в московский дом Толстого. Всё как всегда, а волновался, тихо стоя перед порожком затянутых шнурков дверей в низкий белый кабинет Льва Николаевича… Тот стол с маленькими поручнями, что так знаком с юношеских дней по репродукции с портрета Ге. Наивная, как будто молодая мысль: может, и я за этим столом написал бы что-нибудь хорошее… В тенистом саду, где духота кончалась для нас приближением грозы, говорили с Володей о том, как Он любил жизнь, как всё время старался её познать. Надо будет перечитать «Так что же нам делать?» — то, по чему я когда-то учился жить, узнавал Москву, Россию… Удивительно теперь вспоминается то время, в котором мы сидели, изолированные панами от большого мира.

Сидя в своей Западной, я любил Россию по книгам. Слушал песни и беседы бывалых мужиков, которые в солдатах или на заработках видели вот это: безбрежную Волгу, белых чаек на фоне соснового берега, розово-фиолетовую воду на закате солнца и немного позже опять же чаек, уже на воде, притихших, видать, утомлённых…» Перакладзена земляком і сябрам — рускім паэтам Дзмітрыем Кавалёвым, рускім паэтам з гомельскай Веткі.

Згадаем жа праваднiка Янкі Брыля да рускага чытача — А. Астроўскага…

Арсеній Георгіевіч Астроўскі — літаратуразнаўца, перакладчык. Шмат перакладаў з беларускай і ўкраінскай літаратур… З беларусаў перакладаў найболей Івана Шамякіна. Імя яго мала вядомае сучасніку. Болей Арсеній Астроўскі згадваецца ў розных бібліяграфічных спасылках. Нядаўна наш «Нёман» надрукаваў перапіску Івана Шамякіна з рускім перакладчыкам. З лістоў Арсенія Георгіевіча відаць, як напружана, актыўна працаваў ён, лічы, ці не да апошніх дзён жыцця са сваімі «падапечнымі», імкнучыся дзе толькі можна выдаваць беларускую прозу ў сваіх перакладах. Цяжка сказаць, ці пашчасціла Янку Брылю на перакладчыка… Па колькасці выданняў менавіта ў яго перакладзе, па руплівасці, хуткасці, з якой А. Астроўскі адгукаўся на кожны новы твор Янкі Брыля, — так, відаць, пашчасціла. Арсеній Георгіевіч карыстаўся аўтарытэтам у большасці галоўных усесаюзных выдавецтваў. Быў уважлівым да арыгінала перакладчыкам. І ўсё ж… Калі б меншай была толькі яго «ўлада» над беларускім творцам, калі б да Астроўскага былі далучаныя іншыя, можа быць, нават і самі празаікі (мастацкім перакладам займаліся нават творцы такога маштабу, як Канстанцін Сіманаў, Юрый Казакоў, ды і шмат хто яшчэ з вядомых і моцных, сапраўдных рускіх празаікаў), то, несумненна, уяўленні пра прозу Янкі Брыля, яго мастацкі свет і ў Расіі былі б шмат шырэйшыя.




Творы народнага пісьменніка Беларусі, акрамя рускай і польскай, перакладаліся яшчэ на азербайджанскую, англійскую, албанскую, армянскую, балгарскую, венгерскую, грузінскую, іспанскую, казахскую, кіргізскую, кітайскую, латышскую, літоўскую, малдаўскую, мангольскую, нямецкую, персідскую, румынскую, славацкую, таджыкскую, татарскую, туркменскую, узбекскую, украінскую, фінскую, французскую… Стасункі з замежнымі перакладчыкамі, літаратуразнаўцамі сённяшняга часу паказваюць, што не ўсе пераклады нават да 1985 года ўлічаны ў біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі». Праўда, публікацыі на сербскай мове, здаецца, якраз усе. У слоўніку чытача, даследчыка адрасуюць да трох публікацый у 1958 — 1960 гг. (раздзел «На Югаславіі мовы»). Удакладняем: нядаўна падрыхтавана Даянай Лазарэвіч (Бялград, Сербія) бібліяграфія перакладаў з беларускай на сербскую і з сербскай на беларускую. Д. Лазарэвіч канкрэтызуе: Янку Брыля ў 1958 і 1959 гады перакладаў прафесар А. Брайчыч. Размова — пра апавяданні «Маці», «Ён жыве», «Перамога». Публікацыі былі змешчаны ў «Штотыднёвай інфармацыйнай газеце».

Пералічваючы мовы, на якія перакладалі Я. Брыля, мы мелі на ўвазе і публікацыі ў газетах і часопісах. Кнігамі ж выдадзены творы народнага пісьменніка Беларусі на албанскай (у 1961 годзе), англійскай (чатыры кнігі — усе ў Маскве і Мінску), на балгарскай (4 кнігі), венгерскай, іспанскай (у Маскве ў 1955 годзе), кітайскай (тры кнігі — у 1953, 1955, 1958), латышскай (2 кнігі), літоўскай (3 кнігі), малдаўскай, нямецкай (2), румынскай (4; двойчы перавыдавалася аповесць «У Забалоцці днее»), славацкай, татарскай, таджыкскай, туркменскай, узбекскай, французскай (у Маскве), чэшскай (3), эстонскай (3) мовах. 11 кніг Янкі Брыля выйшла па-ўкраінску. Украінскае прачытанне творчасці беларускага класіка — асобная тэма. Шкада вось толькі, што ва ўкраінскай літаратурнай крытыцы, украінскім літаратуразнаўстве няшмат пісалі пра Янку Брыля. Можа быць, агульнымі намаганнямі беларускіх і ўкраінскіх даследчыкаў гэтую акалічнасць варта выправіць — і чытач ва Украіне яшчэ наноў прыхінецца да творчасці аўтара рамана «Птушкі і гнёзды».

Прысутнасць прозы Янкі Брыля ў кніжнай прасторы іншых краін, народаў — высокая з'ява, сведчанне сталасці беларускай нацыянальнай літаратуры.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Птушак абарваны крык

Школьны спіс беларускай літаратуры для пазакласнага чытання, прапанаваны на лета, у той год пачынаўся прозвішчам Брыля. Сярод аповесцяў (у абавязковай праграме) значыўся раман «Птушкі і гнёзды» (па жаданні). Тады ў мяне было адчуванне, што ўсё самае лепшае прапануецца «па жаданні», таму пачала з рамана. І дагэтуль ніводнае чытво ні ў школьныя гады, ні ў дарослым узросце не зрабіла на мяне больш моцнага ўздзеяння: гэты раман дапамог прыадкрыць адну таямнічую старонку з нашай сямейнай гісторыі.

У нашчадкаў заходніх беларусаў іх можа быць шмат: вельмі адметную гісторыю мела гэтая тэрыторыя, з-за чаго лёсы шмат якіх людзей аказаліся заблытанымі, сляды многіх згубіліся, і ліквідаваць «белыя плямы» гісторыі дзясяткаў тысяч сем'яў тады не атрымлівалася, нават не было зразумела, як і дзе наогул можна шукаць. У нашай сям'і былі такія зніклыя…

Янка Брыль ведаў, як гэта магло здарыцца. Герой яго рамана (аўтабіяграфічнага) таксама фактычна «знік» у 1939 годзе на некаторы час. Беларус Алесь Руневіч служыў у польскім войску, калі пачалася вайна, трапіў у нямецкі палон, з якога імкнуўся вырвацца і вярнуцца на радзіму. Ён вярнуўся!..

Праглынула раман, нібыта чытала пра сваё: знаёмыя назвы мястэчак яшчэ больш настойліва прымушалі задумацца, што ўсё ж вось тут, недзе побач, і вельмі падобна. І што, калі з такога палону ўдалося вызваліцца не ўсім і недзе на чужыне згінулі вось такія «польскія» жаўнеры беларускага паходжання?

Сумневы і думкі, нявырашаныя пытанні звычайна вядуць да дзеяння. Сабраўшыся і паразмаўляўшы, мае сваякі тады (самы пачатак 1980-х) вырашылі напісаць ліст у Чырвоны Крыж: можа быць, недзе зафіксавана імя нашага зніклага? Адказ прыйшоў, адкуль зусім не чакалі. І гісторыя, якая адкрылася потым, уражвала хітрымі да жудасці вынаходніцтвамі лёсу ў дачыненні да людзей. Для заходніх беларусаў, што служылі ў польскім войску ў 1939 годзе, былі розныя варыянты палону, таксама і развіцця жыццёвых падзей. Як і розныя варыянты смерці — у тым ліку не на радзіме. І для кожнага была магчымасць праявіць сябе ў вялікай вайне: нехта з нямецкага палону мог апынуцца ў партызанскім атрадзе, што дапамагаў савецкім вайскам (як у рамане), нехта пасля знаёмства са сталінскай сістэмай ГУЛАГа дзіўным чынам зноў трапіў у польскую армію, што ваявала на баку саюзнікаў...

Гэта зусім іншая гісторыя, яна разгортвалася паралельна з той, пра што распавядаецца ў рамане Янкі Брыля, які стаў штуршком да думак пра складаныя пошукі, што прывялі маіх сваякоў да адкрыцця яшчэ за савецкім часам. Гісторыя, вартая пяра мудрага і тонкага беларускага пісьменніка. Як Янка Брыль, які першы распавёў мне, падлетку, што значыць быць чалавекам памежнай культуры (і гэта адчуваецца праз пакаленні), урэшце, што значыць усведамляць сябе прычыненым да пэўнай радзімы, да пэўнага народа. Дзякуючы Янку Брылю (і яго аповесцям, прачытаным у дзяцінстве) я зразумела, што пра нас і нашы перажыванні, сведадчуванне і асаблівасці гістарычных калізій ніхто не распавядзе лепш, чым беларускія пісьменнікі. Так, ёсць розныя тэмы, агульначалавечыя і вечныя. Але ніякая самая вялікая літаратура і ніводзін самы таленавіты пісьменнік з іншай краіны не скажа таго, што тлумачыць нам Беларусь.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# НЕЗАБЫЎНЫ СУСЕД

Амаль усё маё жыццё прайшло паблізу Янкі Брыля. Пятнаццаць гадоў — лепшыя гады маленства і юнацтва — мы пражылі як добрыя суседзі ў адным пад'ездзе дома № 36 па вуліцы Карла Маркса. А потым здарылася так, што апынуліся ў блізкіх дамах у раёне вуліц Гвардзейская — Дразда і часта сустракаліся, асабліва на прыпынках транспарту. Звычайна пры такіх сустрэчах Іван Антонавіч хваліў мяне за артыкулы па міфалогіі, якія рэгулярна ў 1990-я гады друкаваліся ў часопісе «Роднае слова» — выданні тады, пры галоўным рэдактары, незабыўным Міхасю Шавыркіне, надзвычай папулярным, у тым ліку сярод значнай часткі пісьменнікаў. Мой суразмоўца нязменна здзіўляўся, што з непрыкметнай дзяўчынкі-суседкі вырасла даследчыца, ды яшчэ такой спецыфічнай галіны, як міфалогія. Вечна зацікаўлены загадкамі творчасці, Іван Антонавіч дапытваўся, што стала першапачатковым імпульсам, які пацягнуў за сабой ланцужок маіх доследаў. Мы з ім гаварылі пра дзіцячую любоў да казак, захапленне творамі акадэміка Барыса Рыбакова, а на самай справе, як я зразумела пазней, першавыток маёй навуковай цікаўнасці — *казка маленства*, наш пісьменніцкі дом, жыллё карпарацыі літаратараў. Сёння, сапраўды, ён здаецца не інакш як міфам, бо *магічная атмасфера*, у якой прыйшлося духоўна фарміравацца, не адновіцца ўжо ніколі, ды нават уявіць яе цяжка ў сённяшнім прагматычным і, хоць пастаянна зменлівым, але нецікавым абывацельскім свеце.

Памяць вяртаецца ў 1950 — 1960-я гады. Мы, Шамякіны, жылі на чацвёртым паверсе, Брылі — непасрэдна над намі, у такой жа чатырохпакаёвай кватэры. Спачатку ў Брыля дзве дзяўчынкі — Галя і Наташа, пасляваенныя, затым нарадзіўся сын Андрэй. Памятаю, сам Іван Антонавіч гаварыў, што дзяўчынкі яму падабаюцца больш, чым хлопцы, дзяўчынак, аказваецца, цікавей выхоўваць. Наташу, на год старэйшую за мяне, я ў свой час ведала добра. Разам гулялі ў дварэ, потым, пазней, у адным класе з ёю вучыўся мой будучы муж, а яна пасля заканчэння філфака ўзяла шлюб з пісьменнікам і літаратуразнаўцам Рыгорам Семашкевічам, з якім я працавала на кафедры беларускай літаратуры. Наталля Іванаўна ўсё жыццё добрасумленна і пры гэтым трымаючыся надзвычай сціпла прапрацавала ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», была адным з лепшых рэдактараў, рыхтавала да выдання ў тым ліку і кнігі Шамякіна.

Галя Брыль, як і мая старэйшая сястра Ліна, у нашым маленстве трымалася ад нас, малодшых, паасобку. Сёння Наталля Іванаўна і Галіна Іванаўна жывуць удваіх у ранейшай кватэры Івана Антонавіча — яго апошняй, двухпакаёвай. На яго пахаванні сёстры раздавалі ўсім, хто прыйшоў яго праводзіць, апошнюю кнігу класіка. Высакародна, арыстакратычна, як заўсёды ў Брылёў…

Але Іван Антонавіч успамінаецца жывым, такім, як у маім дзяцінстве. Два самастойныя светы — дарослыя і дзеці. Тым не менш сутыкаліся — не толькі ў межах сваіх сем'яў. Так, Іван Антонавіч прыходзіў да нас і пастаянна пераконваў майго бацьку, каб той забараніў майму брату Сашы трымаць на гарышчы галубоў. Шамякін, услых згаджаючыся з калегам, тым не менш пасіўна супраціўляўся, бо лічыў захапленне сына птушкамі пазітыўным у плане яго чалавечага станаўлення. А Брыля не столькі раздражняла бегатня хлопцаў у яго над галавой, колькі пастаянна непакоіла іх бяспека. Не раз здаралася, што Іван Антонавіч літаральна за ногі сцягваў Сашу са страхі пяціпавярховага дома. Урэшце Брыль дамогся, каб гарышча закрылі на замок, і ўсім у



*Унукі Янкі Брыля — Вольга, Антон, Міша.*

пад'ездзе стала спакайней. Саша ў сваім захапленні перакінуўся на рыбак.

Аднак майго бацьку здзіўляла такая залішняя, на яго думку, валтузня суседа з дзецьмі. Шамякін, вечна бязмерна заняты як адзін з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў, лічыў, што Брылю няма чаго рабіць, таму ён і шукае сабе занятак. Янка Брыль і Іван Мележ, яшчэ адзін наш сусед, не без уплыву Шамякіна, некаторы час працавалі сакратарамі Саюза пісьменнікаў, але адміністратыўная праца ім хутка надакучыла, і яны вярнуліся да жыцця вольнымі мастакамі. На ганарары ў той час можна было пражыць — не тое, што цяпер.

Характэрна, што Шамякін ніколі не хадзіў да суседзяў, а вось да нас яны прыходзілі ледзь не штодня. Памятаю сваё візуальнае ўражанне: бацька яўна адчуваў сябе ніякавата побач з высачэзнымі Брылём і Мележам, а затым і Навуменкам, які з сям'ёй уехаў у кватэру Мележа ў 1964 г. Праўда, Мележ і Навуменка заўсёды ў нас трымаліся спакойна і вельмі сціпла, а вось Брыль адчуваў сябе больш упэўнена і раскавана, часта жартаваў — вызначаўся дасціпнасцю. Асабліва захапляльнымі былі яго пікіроўкі з Андрэем Макаёнкам, шамякінскім сябрам, які часта наведваўся да нас. Захаваўся фотадымак, які міжволі выклікае ўсмешку: Брыль у Кіеве на фоне помніка Тарасу Шаўчэнку стаіць, па-сяброўску абдымаючы за плечы нізкарослых і таму смешнаватых у параўнанні з ім калег — Івана Шамякіна і Рыгора Няхая.

А мне асабліва падабалася, як Іван Антонавіч спускаўся па лесвіцы нашага пад'езда, заўсёды спяваючы. У яго быў прыгожы барытон, добра чутны з кватэр. З таго часу і на ўсё жыццё спевы Брыля для мяне — *сімвал часу*, незабыўнага *кароткага* перыяду, калі эліта адчувала сябе шчаслівай і радаснай. Спевы Брыля — гэта адчуванне ў ім самім творчых, ды нават і фізічных сіл. Памятаю, ужо ў 1980-я гады, на адной з канферэнцый у авальнай зале Дома літаратараў па Фрунзэ, 5 у залу ўварваўся паэт Анатоль Сыс і пачаў, як заўсёды, эпаціраваць прысутных. Неяк усе разгубіліся, таму што беларусы заўсёды губляюцца перад неардынарнымі паводзінамі. І толькі Іван Антонавіч спакойна ўзяў на рукі хударлявага Сыса і вынес яго з залы. Не забуду выраз твару Анатоля: не сарамлівасць, не перажыванне сваёй ганьбы, а задавальненне, нават асалода: на руках у самога Брыля!

Івана Антонавіча літаральна ўсе вельмі паважалі, хоць і папракалі, што піша мала. Яго твораў чакалі. Крытыкі, калегі-празаікі ставіліся да яго творчасці прыхільна. Увогуле, даволі працяглы час, менавіта да 1980-х гг., паміж пісьменнікамі захоўваліся добразычлівыя адносіны, прычым наш дом даваў у гэтым прыклад, хоць ужо тады, нябачнае звонку, адбылося негалоснае раздзяленне на «заходнікаў» і «ўсходнікаў». Адпаведна ў «заходніка» Брыля — шмат сяброў-палякаў. Але ж і адносіны паміж народамі — шчыра, не афіцыйна, таварыскія.

У 1950 — 1960-я гады пісьменнікі, як ні дзіўна гэта гучыць, даволі часта ездзілі за мяжу ў складзе розных дэлегацый. Дастаткова сказаць, што кожны год на чатыры месяцы хто-небудзь з пісьменнікаў лётаў у ЗША на чарговую сесію ААН: пісьменнікі там пісалі прамовы для дыпламатаў. Вельмі часта ў Амерыку ездзілі Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, а мой бацька — адзін раз. Брыль у Нью-Ёрк, наколькі я ведаю, не імкнуўся. Але часта наведваў Польшчу, дзе, сапраўды, меў шмат сяброў-літаратараў, перакладаў іх. Аднойчы адтуль прывёз нацыянальныя польскія касцюмчыкі для дачок — ім было гадоў па шэсць — восем. Дзяўчынкі ў іх здаваліся павамі. Мы, іх сяброўкі, зразумелі значнасць народнага строя — гэта быў урок эстэтыкі і прыклад для беларусаў, як неабходна цаніць *сваё*. Праўда, у той час пісьменнікі ды іншыя прадстаўнікі эліты пераважна хадзілі ў вышытых беларускім арнаментам кашулях. Але такая прыемная мода на вышыванкі адышла даволі хутка, як і шмат чаго іншага.

…Я — прыхільнік найноўшай тэорыі мультысусвету. Яна сцвярджае, што побач з нашым светам існуюць яшчэ мільярды мільярдаў іншых універсумаў. Іх таму шмат, па сутнасці — бязмежная колькасць, што кожная сітуацыя з кожным з людзей кожную секунду ўтварае новую рэальнасць, у якой аказваецца ўсе разам, але жывём *там* трохі інакш, чым *тут*. Часам паралельныя сусветы сутыкаюцца ў нейкіх пунктах, што не супярэчыць законам квантавай фізікі. Але ў мяне ўражанне, што ў пачатку 1970-х гадоў уся планета нібы сышла з рэек *свайго* ўніверсуму і пайшла па зусім іншай каляі, ужо *ніколі* не вярнуўшыся ў сапраўднасць. Неяк раптоўна з'явілася адчуванне, што мы пачалі жыць у іншай рэальнасці. Змянілася і атмасфера ў нашым пісьменніцкім доме. Дзверы пачалі закрывацца на замкі. Суседзі радзей сустракаліся. А потым і зусім раз'ехаліся. У кватэру Янкі Брыля ўсяліўся Вячаслаў Адамчык з сям'ёй, у нашу — Іван Навуменка (да таго жыў насупраць на пляцоўцы).

Праўда, Шамякін і Брыль захавалі самыя прыязныя адносіны, часта тэлефанавалі адзін аднаму. Асабліва тады, калі засталіся ў пачатку XXI ст., па сутнасці, адзінымі з усіх беларускіх класікаў (Васіль Быкаў знаходзіўся за мяжой). Пра гэта ніхто не згадваў, можа, і не заўважалі ў хаатычным, тлумным свеце, але сама іх прысутнасць неяк трымала планку і высокай эстэтыкі, і высокай маральнасці, культуры адносін, карпаратыўнага духу. Стасункі двух Іванаў, хоць і на адлегласці ў іх апошнія гады, сталі асабліва цёплымі, кранальнымі. Адно пакаленне, агульнае мінулае…

Я часта ўспамінаю Івана Антонавіча. Для мяне ён — увасабленне велічы беларускай літаратуры ў яе чалавечай іпастасі.

**Таццяна ШАМЯКІНА**

# Асабістае — для грамадства



*Чарнавыя накіды аповесці «У Забалоцці днее».*

З беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва Янку Брыля звязвала шматгадовае супрацоўніцтва. Упершыню пісьменнік наведаў тады яшчэ Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва БССР у 1963 г., перадаўшы рукапісы сваіх кніг «Пад гоман вогнішча», «Мой родны кут», «Працяг размовы», а таксама асобных апавяданняў і нарысаў. Гэта паклала пачатак асабістага фонду Янкі Брыля.

Дакументы ад пісьменніка працягвалі паступаць і ў 1970-х, і ў 1990-х, і ў 2000-х гг., а пасля яго смерці рэшту архіва Янкі Брыля перадала яго дачка Наталля Іванаўна Семашкевіч. Сёння архіў Янкі Брыля налічвае 4 вопісы агульнай колькасцю 1297 адзінак захоўвання. Гэта больш як 12 750 дакументаў: чарнавыя аўтографы аповесцяў «У Забалоцці днее», «На Быстранцы», «Ніжнія Байдуны», «Золак, убачаны здалёк», рукапісы шматлікіх апавяданняў, нарысаў, замалёвак і лірычных мініяцюр, багатая перапіска з дзеячамі літаратуры і мастацтва Беларусі ды іншых краін, матэрыялы творчай дзейнасці, артыкулы пра пісьменніка, яго фотаздымкі з роднымі, калегамі па пяры.

Унікальная частка архіўнага фонду Янкі Брыля — яго дзённікі, якія пісьменнік вёў цягам усяго жыцця — з 1932 да 2006 г., — гэта своеасаблівы летапіс эпохі.



Смерць нямецкім акупантам!

ПРАЧЫТАЙ І ПЕРАДАЙ ДРУГОМУ

ПАРТЫЗАНСКАЕ ЖЫГАЛА

№ 8
28 МАЯ
1944 г.

Мясапастаўка Гітлеру

[illegible]

ГО, БАНДЫТА, НА ПРЫЦЭЛ ВАЗЬМІ!..

[illegible]

*Сатырычны лісток «Партызанскае жыгала» з фельетонам Янкі Брыля. 28 мая 1944 года.*

# «І ён — жывы»

Івану Антонавічу Брылю споўнілася б 100 гадоў. У гэта немагчыма паверыць…

Адзін з першых маіх успамінаў — двор трыццаць шостага пісьменніцкага дома на Карла Маркса, а ў двары — пузатая блакітна-шэрая «Волга» са срэбным аленем на капоце (Глебкава? Хадкевічава? Лужанінская?), багажнік расчынены і ўстаўлены кашамі з баравікамі, іх спрытна выгружае адтуль Брыль, недасяжна высокі, вялікі, на галаву вышэйшы і за Глебку, і за Лужаніна, не кажучы ўжо пра Хадкевіча і Вітку, у чорным паліто з паднятым каўняром і берэце — ён у грыбы і ўвогуле за горад ніколі не ездзіў, але заўсёды прыходзіў глядзець. Для жыхароў пісьменніцкага дома баравікі былі і нечым сакральным, нейкім працягам літаратурнага спаборніцтва, асабліва для трох Іванаў — Брыля, Мележа і майго бацькі. Колькасць і якасць баравікоў прыдзірліва фіксавалася, і ўсё гэта, яшчэ ад часоў Коласа, мела нейкае патаемнае значэнне, нейкі прыхаваны літаратурны сэнс, хаця ў тыя часы баравікоў гэтых было хоць захлыніся, можна было купіць колькі хочаш у навакольных вёсках, пры дарозе, на Камароўцы... Але купіць было нельга.

Ён ніколі, як запомнілася, не хадзіў па лесвіцы павольна — пераскокваў праз прыступкі, магчыма, яны для яго ных даўгіх ног былі нізкаватыя, а магчыма, вінаватая ў тым была прыродная жвавасць, якая была заўважная ў манументальнай постаці і вельмі пасавала. Брылі былі заўважнай у доме сям'ёй — і сам манументальны бацька, і фантастычна прыгожая дачка Галіна, і падобны да маці іранічна-спакойны Андрэй, і Наталля. І, вядома, жонка, Ніна Міхайлаўна. Караля робіць світа, кажуць французы. Пісьменніцкія жонкі трыццаць шостага дома надавалі гэтаму афарызму новы сэнс: без Брылíхі, Гілевічыхі, Крышчыхі (жонка Васіля Віткі), Караткевічыхі, Навуменчыхі, Марыі Філатаўны Шамякінай іх слаўныя мужы не зрабілі б і паловы таго, што зрабілі. Мужы гэта добра ведалі, жонак, дарэчы, шанавалі, так, як сёння ўжо мала хто ўмее…

Гадоў праз дваццаць пасля кашоў з баравікамі, распрацоўваючы свае першыя ўніверсітэцкія лекцыйныя курсы, я мусіў грунтоўна перачытаць усю пасляваенную беларускую прозу — і быў ашаломлены. Пакутліва прадзіраецца праз буралом вульгарна-сацыялагічнага канона новая пасляваенная генерацыя беларускіх празаікаў. Доўга шукае сябе Мележ — праз «каранеўскі цыкл» да не вельмі ўдалага «Мінскага напрамку», да даволі другасных маралізатарскіх апавяданняў… Шлях да «Палескай хронікі» зойме гадоў пятнаццаць. Не карацейшая дарога і ў Быкава: да «Жураўлінага крыку» 1959 года будуць перацёртыя горы скупаватай руды вобразаў, тэм і жанраў. Шамякін, хоць і абласканы ўжо ў пяцідзясятыя папулярнасцю і прызнаннем, і прымераў ужо мантыю мацёрага раманіста, усё-такі адчуе цвёрды грунт пад нагамі толькі ў 1960-я (хаця першую аповесць «Помста» надрукуе яшчэ ў 1945-м). І толькі Брыль адразу возьме з высокай ноты, і ў апавяданні, і ў аповесці. І гэта ў самы мёртвы час у беларускай літаратуры — з сярэдзіны саракавых і да паловы пяцідзясятых, да самай хрушчоўскай адлігі. З 1946 па 1955 год выйдзе чатыры яго ныя кнігі — бліскучыя апавяданні, чатыры аповесці, з якіх дзве — «Сірочы хлеб» і «У сям'і» — упрыгожылі б залаты фонд любой еўрапейскай літаратуры. Гэта было як глыток паветра ў глухую воўчую пару — сакавітая і фактурная строгая проза факта, але і тонкае бачанне свету, глыбіннае суперажыванне і выверaная мастацкая структура: тое, да чаго беларуская проза ішла ды не дайшла ў слаўныя дваццатыя гады. Так, была і кан'юнктура — у каго яе тады не было? Але характэрна: хаця самая «савецкая» аповесць Брыля «У Забалоцці днее» і была ўганараваная Сталінскай прэміяй, П. Броўка ўсё роўна адсцябаў яе на пісьменніцкім з'ездзе за «вёску, у якой няма электрычнасці. Дзе вы бачылі ў Беларусі сёння такую вёску?». І гэта — у пачатку 1950-х, у час калгаснай нішчымніцы, пасляваеннага развалу і жабрацтва… Відавочна, хлусіць Брыль-пісьменнік не ўмеў, у савецкі літаратурны канон не ўлазіў нават са скрыпам, хоць на нейкія кампрамісы мусіў ісці…

Ён ці не адзіны ў гэты час празаік і па-сапраўднаму сацыяльны, і па-сапраўднаму лірычны, і без усялякіх нацяжак — мастацкі. Што таму было прычынай: ці заходнебеларускі (пераважна) і ваенны матэрыял, ці аўтарскае ўменне прайсці між кропляў дажджу, узняўшы праблемы, закрануўшы тэмы і вобразы, катэгарычна немагчымыя у той час, — не магу адказаць. «Сірочы хлеб» — дык які ж ён сірочы на фоне савецкага вясковага жыцця, і перадваеннага, і пасляваеннага, чыстая апалагетыка ўласніцтва і «буржуазнага ладу» ў Заходняй Беларусі! А нічога, прайшло, праглынулі, і ў школьную праграму, здаецца, аповесць увайшла… І гэта пры тым, што ніякіх камуфляжных пісьменніцкіх стратэгій Брыль не выкарыстоўвае…

Пісьменніцкая біяграфія — адна з самых важных частак любой гісторыі літаратуры. Брыль са сваім жыццяпісам быў бы настолькі ж пажаданы для любога еўрапейскага літаратурнага гісторыка, наколькі ён нязручны для савецкай сістэмы мадэляў пісьменніцкай біяграфіі. Гэта тычыцца як і той біяграфічнай канвы, што моцна праступае ў яго ных творах, так і лірычных мініяцюр, нататак, фрашак, дзе сваю аўтарскую пазіцыю, аўтарскае крэда сам пісьменнік фармуляваў заўсёды ясна і выразна.

Кароценькая, але трапная ацэнка рамана А. Чакоўскага «Перамога» ў адной з такіх нататак справакавала ўсесаюзны скандал з патрабаваннем рэпрэсій да «перыферыйнага» нахабніка (хто ён такі?), які асмеліўся ацэньваць маскоўскіх бонзаў. Калі ж звярнуцца да рэальнай біяграфіі, дык па сацыяльным становішчы ён дробны землеўласнік (толькі што не кулак), а ўвогуле — «западэнец», польскі марскі пехацінец, быў у нямецкім палоне, падтрымліваў моцныя сувязі з польскім літаратурным светам, нават польскімі літаратурнымі прэміямі быў уганараваны… Можна толькі ўявіць, наколькі ўсе гэтыя абставіны маглі «спрыяць» удаламу пісьменніцкаму лёсу ў савецкай сістэме.


*У будынку Саюза пісьменнікаў на вул. Энгельса, 1950-я гады.*

Захапіўшыся вяртаннем рэпрэсаванай літаратуры 1920-х — 1930-х, мы, здаецца, не зусім уяўляем сабе (ва ўсялякім выпадку, адкрыта не гаворым), што пісьменнікам, якія прыходзілі ў літаратуру ў другой палове саракавых, было не нашмат прасцей, што безліч іх скалечыла «ненаежная» ідэалагічная сістэма… Але не Брыля. Дарэчы, заходнебеларуская проза колькасна немалая — і тая, што дасталася ў спадчыну разам з Заходняй Беларуссю, і тая, што адфарміравалася ў шасцідзясятыя-сямідзясятыя, але прозе Брыля ў ёй належыць асаблівае і — без усялякіх агаворак — першае месца. Бо некалькі яго ных апавяданняў скажуць пра той кароткі дваццацігадовы заходнебеларускі перыяд болей, чым некаторыя раманныя трылогіі. І гэта таксама парадокс, бо, у адрозненне ад усёй пасляваеннай генерацыі без падзелу на ўсходнікаў і заходнікаў, Брыль не меў магчымасці вучыцца ва ўніверсітэце, нават гімназія аказалася недаступнай з-за нялёгкіх жыццёвых абставін. Але хто большы за Брыля інтэлектуал у беларускай літаратуры? Парадокс, які таксама не асэнсаваны.

Асноўнае, ім створанае, напісана да сярэдзіны шасцідзясятых. Раман «Птушкі і гнёзды», з аднаго боку, унікальны і непаўторны нераманны лірычнай інтанацыяй, з іншага — дэманструе нейкую вельмі важную і тыповую для большасці вяршыннай беларускай прозы якасць: ён падкрэслена, наўмысна біяграфічны. Свядомая адсылка да падзейнай і ўнутранай біяграфіі аўтара ні ў якім разе не прымітывізм ці прыземленасць, няздольнасць адарвацца да уласнага досведу. Ці не супрацьяддзе ад эпохі, якая і сама бясконца хлусіць, і ўвесь час пераінтэрпрэтуецца ў залежнасці ад патрабаванняў бягучага моманту? Калі верыць можна толькі таму, што сам пабачыў і зведаў?

Брыль — адзін з апошніх беларускіх пісьменнікаў, які адчуў і перадаў самакаштоўнасць «маласці», традыцыі, нацыянальнага быцця, якое воляй гісторыі сканцэнтравалася ў нас у вёсцы, мястэчку, хутары. Каб не трагічны злом гісторыі, гэтая «маласць» была б той паўнавартаснай цаглінай, з якіх складзены і сёння падмурак існавання такіх краін, як Францыя ці Аўстрыя, Нямеччына ці Польшча. Але ўжо да сямідзясятых жыццё безнадзейна сыходзіла з беларускіх вёсак і мястэчак, і, магчыма, гэта стала прычынай напісання дзвюх бліскучых нораваапісальных аповесцяў «Ніжнія Байдуны» і «Золак, убачаны здалёк»: каб хоць на паперы захаваць тое багацце жыцця, звычак, мовы, тыпаў «сыходзячай з яснай явы вёскі», на змену якой ішоў панылы, як шэрая сілікатная цэгла, лад жыцця гарадскога пасёлка або цэнтральнай калгаснай сядзібы. Дарэчы, ні пісьменніцкія справы, ні мітусня гарадскога жыцця, ні ўсялякае іншае — з яго пункту гледжання, драбноцце — не ўвасобілася ні ў адным брылёўскім апавяданні ці аповесці. Для гэтага хапала і рэзервовага жанру — лірычнай мініяцюры ці аўтарскай нататкі.

Цяжка ўявіць сабе, што Брыль — гэта ўжо нашая літаратурная гісторыя. Цяжка, бо ён яшчэ і не прачытаны належным чынам, і не ацэнены, і яшчэ мусіць стаць той крыніцай, да якой беларуская літаратура звернецца яшчэ не раз, бо сам ён звяртаўся да сапраўднага і вечнага, таму і застанецца актуальным, якія б перыяды і эпохі не змянялі адзін адну.

І — як жывы ён перад вачыма — пасярод двара на Карла Маркса, 36 выгружае кашы з баравікамі.

**Павел НАВУМЕНКА**


*Янка Брыль і Пётр Машэраў. Пачатак 1970-х гг.*


*Дзяржаўныя ўзнагароды пісьменніка.*


*Польскія ўзнагароды Янку Брылю як перакладчыку.*

*На памяць*

# Хто бачыў партрэты Янкі Брыля?

## Калекцыянеры Аляксандр і Іна Радаевы паказалі твор графіка Сямёна Геруса

У Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» ўчора адбылася вечарына, прысвечаная асобе народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля, арганізаваная сумесна Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва і рэдакцыяй газеты «Літаратура і мастацтва». Да падрыхтоўкі імпрэзы далучыліся калекцыянеры Аляксандр і Іна Радаевы, якія прадставілі для экспанавання партрэт пісьменніка Янкі Брыля, напісаны знакамітым беларускім графікам Сямёнам Герусам у 1962 годзе.

Партрэт напісаны вугалем. Першае, што прыцягвае ўвагу, — мяккія лініі твару пісьменніка. Адразу ж зразумела: Сямён Герус імкнуўся падкрэсліць мяккасць душы пісьменніка, яго добрую, прыемную энергетыку. Аднак гэта не проста партрэт, а яшчэ і абсалютна прадуманая кампазіцыя, у якой сумяшчаецца жаданне аўтара прадэманстраваць не толькі знешнюю статнасць Янкі Брыля, але ж паказаць пісьменніка ў гармоніі са светам і самім сабой. І гэта атрымалася.



Сямён Герус (1925 — 1998). Партрэт пісьменніка Янкі Брыля. 1962 г. Папера, вугаль, 79,5 × 60 (ліст), 56 × 44,5 (выява). Прыватны збор сям'і Радаевых.

У такіх партрэтаў заўсёды цікавая гісторыя, якая звязала пісьменніка і мастака.

Расказвае калекцыянер Аляксандр Радаеў:

— Гэты твор я набыў ва ўдавы Сямёна Геруса ў 2005 годзе. На жаль, нейкіх падрабязнасцяў напісання партрэта яна не ведала. Увогуле, збіральніцтва мастацкіх твораў — гэта наша агульнае захапленне з жонкай. На пачатку гэтай справы быў адразу неабыякавы да партрэтнага жанру. А калі гэта яшчэ тычылася партрэтаў знакавых асоб для Беларусі, выпадкаў, калі, напрыклад, мастак пісаў мастака альбо дзесьці ўдавалася знайсці аўтапартрэт, я не мог прайсці міма. Аднойчы выпаў шанц набыць арыгінальны малюнак — партрэт Янкі Брыля, і я з радасцю скарыстаў такую магчымасць. Тым больш пісьменнік мне вельмі сімпатычны не толькі як творца, але і як сапраўдны герой не толькі беларускага, але і польскага народа. Ён стаў прызнаным беларускім пісьменнікам, імя якога не забыта, выклікае павагу і гонар.

Аўтар партрэта графік Сямён Герус — прадстаўнік класічнай графічнай беларускай школы, якая атрымала другое нараджэнне разам са стварэннем у Мінску Тэатральна-мастацкага інстытута. Пасля вайны мастак паступіў у Вільнюскі мастацкі інстытут, потым там некаторы час выкладаў. Пасля быў запрошаны кіраўніцтвам Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінск для стварэння кафедры графікі і эстампнай майстэрні. Сямён Герус быў першым выкладчыкам графічнага аддзялення мастацкага факультэта, навучаў студэнтаў тэхнікам графічнага мастацтва — лінагравюры, ксілаграфіі, літаграфіі, афорту, сухой ігле… Сярод вучняў Геруса былі такія знакамітыя майстры, як Арлен Кашкурэвіч, Людвіг Асецкі ды іншыя творцы.

На пачатку творчага шляху мастак звяртаўся да гістарычнай тэматыкі і ў выніку пачаў займацца стварэннем серыі партрэтаў знакамітых дзеячаў Беларусі ў розных тэхніках (лінагравюра, літаграфія, афорт, малюнак). Так, у творчы архіў мастака ўвайшлі партрэты Францыска Скарыны, Кастуся Каліноўскага, Адама Міцкевіча, Максіма Танка ды іншых.

— Калі меркаваць па памерах малюнка, то гэта фармат класічных літаграфічных лістоў — 80 × 60 см — Сямёна Геруса, — падкрэслівае Аляксандр Радаеў. — Таму, магчыма, партрэт Янкі Брыля быў задуманы першапачаткова як падрыхтоўчы малюнак да наступнай тыражнай літаграфіі.

Перад тым, як прадставіць партрэт шырокай публіцы, Аляксандр Радаеў звярнуўся да трох каталогаў прыжыццёвых выставак Сямёна Геруса (1963, 1978, 1987 гг.), у кожным з якіх знайшоў прадстаўлены твор пад подпісам «Пісьменнік Янка Брыль». Таксама ў каталогах 1978 і 1987 гадоў сярод пераліку прадстаўленых твораў можна ўбачыць афорт пад назвай «Янка Брыль», датаваны 1969 годам.

— Афорт я ніколі не бачыў і нават не сустракаў рэпрадукцыі, хоць з творчасцю Сямёна Геруса знаёмы дастаткова добра, — адзначае калекцыянер. — І афорты ў Геруса, як правіла, значна меншых памераў. Таму лагічна меркаваць, што афорт «Янка Брыль» 1969 года не паўтарае партрэт вугалем «Пісьменнік Янка Брыль» 1962 года. Тым больш мастак не стаў бы дэманстраваць аднолькавыя творы, якія адрозніваюцца толькі тэхнікай выканання. Думаю, што з вялікай доляй упэўненасці можна гаварыць аб арыгінальнасці працы, якая знаходзіцца ў калекцыі нашай сям'і. Таксама, на мой погляд, неабходна падкрэсліць, што сам мастак лічыў партрэт удалым. Думаю, і Янку Брылю ён падабаўся. Пра гэта можна меркаваць не толькі па тым, што Сямён Герус выстаўляў яго на кожнай персанальнай выстаўцы, але ж і па тым, як акуратна сам малюнак наклеены на шчыльны кардон і аформлены аўтарскі паспарт, і, у сваю чаргу, наклеены на полі малюнка. Атрымліваецца, што партрэт аформлены самім мастаком, як кажуць, на стагоддзі.

Дакладных звестак пра стварэнне партрэта сёння няма, аднак вядома, што майстэрня Сямёна Геруса знаходзілася на праспекце Незалежнасці 38, (тады праспект Леніна 38), у флігелі дома з хлебнай крамай-булачнай, што размешчаны на Плошчы Перамогі. Зыходзячы з гэтага, можна выказаць здагадку, што партрэт народнага пісьменніка быў напісаны менавіта там альбо ў кватэры Янкі Брыля.

Партрэтаў Янкі Брыля аказалася ў краіне не так шмат. Таму тое, што твор Сямёна Гаруса захаваўся і быў прадэманстраваны беларускаму гледачу праз 30 гадоў, можна лічыць сапраўднай мастацкай сенсацыяй для краіны.

**Вікторыя АСКЕРА**

*Кіно*



*Здымкі фільма «Тум-Пабі-Дум» (рэж. В. Нікіфараў).*

# ПАМНОЖАНАЕ НА ТРЫ

Лета — час для добрага і вечнага, вырашылі на «Беларусьфільме»: кінастудыя пачала здымкі адразу трох стужак, што для яе — крок наперад.

**1.** Тыдзень таму стартавалі здымкі дзіцячага кіно **«Скачок саламандры» Ігара Чацверакова.** Здымкі пройдуць у Мінску і адным з раённых гарадоў. Рэжысёр звяртаецца да дзіцячай тэмы не ў першы раз, бо яго дэбютам быў фільм «Шэльма», разлічаны на падлеткаў, але, напэўна, лёс яшчэ і ў тым, што Чацверакоў будзе працаваць у тандэме са сцэнарыстам Валянцінам Залужным, як гэта было на здымках «Дзяржаўнай мяжы» і «Участка лейтэнанта Качуры».

Рэжысёр лічыць, што ва ўсе часы дзецям і падлеткам падабалася авантурнае кіно, пошукі скарбаў, многія пакаленні кінааматараў выраслі на знакамітых «Корціку» і «Бронзавай птушцы», але сёння здзівіць маладых гледачоў тым жа самым кіно будзе складана. Чацверакоў абяцае дынамічную стужку з мінімумам маралізатарства, хоць і не адмаўляецца ад асноўных агульначалавечых прынцыпаў, такіх як сяброўства і перамога духоўнага над матэрыяльным.

Героі фільма — каманда геймераў, якія мараць стаць пераможцамі міжнародных спаборніцтваў па вядомай ва ўсім свеце гульні (вы яе таксама ведаеце, бо створана яна ў Беларусі). Але кінематаграфіст надае ўвагу не камп'ютарным прыгодам, а рэальным, і кіно вырашана стварыць жанравае, з ухілам на беларускую гісторыю. Вядома, што ў стужцы будуць спасылкі на наша мінулае, але падрабязнасці не раскрываюцца.

**2.** Здымкі мастацкага фільма **«Тум-Пабі-Дум» Вячаслава Нікіфарава** ўжо пачаліся ў Мінску, хоць да ўвасаблення сваёй ідэі рэжысёр ішоў амаль 15 гадоў! Нікіфараў — сапраўдны майстар у дзіцячым і сямейным кіно, за якое ён атрымліваў шмат узнагарод. Кінематаграфіст распавёў, што ідэя новага фільма з'явілася ў яго па дарозе ў Фонд Ралана Быкава, які займаўся падтрымкай дзіцячага некамерцыйнага кіно. «Тум-Пабі-Дум» таксама будзе некамерцыйным — на кінастудыі адзначылі, што поўнаметражная стужка здымаецца ў мінімальныя тэрміны і за мінімальны бюджэт. Сцэнарый фільма рэжысёр пісаў у супрацоўніцтве з Дзмітрыем Міхлеевым. У фокусе — шчымлівая гісторыя выхаванца дзіцячага дома Санька, які вырашае шукаць сям'ю па аб'яве: «Маладое дзіця шукае сям'ю з мэтай наладжвання асабістага жыцця».

Галоўнага героя Вячаслаў Нікіфараў знайшоў ва Украіне: маленькі акцёр Арцём Вагнаровіч уразіў рэжысёра сваім маналогам на шоу «Украіна мае талент», дзе хлопчык выбраў тэму менавіта пра выхаванцаў дзіцячых дамоў і давёў да слёз усю залу. Астатнія акцёры — беларускія. Ролю маленькай сяброўкі Санька выканае Даша Кірэева, дарослых іграюць Валерыя Арланава, Павел Харланчук ды іншыя. Стужку выпусцяць сёлета.

**3.** **«Жыццё пасля жыцця» Дзмітрый Астрахан** здымае на «Беларусьфільме» сумесна з расійскай кампаніяй «МАВР» па сцэнарыі Алега Данілава. Здымкі праходзяць у Мінску і Маскве і працягнуцца да 20 верасня, ужо напрыканцы 2017 года кіно пакажуць у кінатэатрах, а для тэлебачання прадугледжана 4-серыйная версія. У фільме пра барацьбу за сямейнае шчасце здымуцца Аляксандр Дамагараў, Таццяна Кабанава, Ганна Семяновіч.

Генеральны дырэктар «Беларусьфільма» Ігар Поршнеў адзначыў, што не ведае непаспяховых работ творчага тандэма Астрахана і Данілава. Сюжэт, з аднаго боку, вельмі рэалістычны: кінапрадзюсар Юрый Нячаеў, сапсаваны святлом сафітаў і славай, хоча кінуць сваю жонку Алену дзеля маладой актрысы. З другога боку, у стужцы ёсць «нябесная» камісія, якая займаецца справамі кахання, — вось і нерэальнасць. У кіно людзі, якія сапраўды кахаюць адзін аднаго, могуць быць разам і пасля смерці, і камісія павінна шукаць такое шчырае каханне, для якога вечнасць будзе не карай, а ўзнагародай.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

*Музыка*

# Паслухаем у жніўні

Прапануем звярнуць увагу на тры прэм'ерныя беларускамоўныя альбомы.

### «Колер, якога няма», *TonqiXod*



На пачатку лета выйшаў другі альбом мінскага рок-гурта *TonqiXod*. Напярэдадні з'явіўся іх новы сінгл «Песня пра балота». «Разынкай» сінгла можна назваць выкарыстанне мноства тыпова беларускіх слоў. У адрозненне ад папярэдняга, новы альбом атрымаўся больш «вострым»: гэтым разам музыкі не пабаяліся рызыкаваць у самавыяўленні. Яшчэ адна адметнасць альбома «Колер, якога няма» ў тым, што 2/3 грошай на яго выданне выканаўцы сабралі дзякуючы папулярнаму зараз краўдфандынгу: іх падтрымалі 120 спонсараў.

### «Špijony», *SnopSnoŭ*



Індзі-рок гурт з Мінска *SnopSnoŭ* (намінант на прэмію *TuzinFM* «Адкрыццё года») прадставіў на суд аўдыторыі міні-альбом «*Špijony*», які складаецца ўсяго з чатырох трэкаў. Гурт, створаны ў 2015 годзе, характарызуе сябе як «спалучэнне гітарных мелодый, халодных рытмаў драм-машыны і сінтэзатарных пульсацый», а песню «*Špijony*» лічыць адной з самых удалых у сваёй творчасці: натхненнем для тэксту песні сталі відэагульні пра Макса Пэйна ды серыял «Клан Сапрана».

### «Сёньня ўжо было ўчора», Уладзімер Дрындрожык



Выканаўца Уладзімер Дрындрожык звярнуўся да слухачоў з філасофскай песняй. «Сёньня ўжо было ўчора» — яшчэ адзін міні-альбом, дзе тэма, узнятая ў загалоўнай песні, замыкаецца ў апошнім трэку «Сёння», вяртае слухача ў «тут і цяпер». Музыка запісаная з дапамогай Сяргея Куцецкага (бас-гітарыст, удзельнік кавер-бэнду «Фриланс») і Таццяны Яжовай (джамбэ, удзельніца праекта «ЯГОРАВА ГАРА»).

**Падрыхтавала Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

Тэатр

# ЗАМЕСТ БУДЫНКА

**Кажам — тэатр, маем на ўвазе — будынак. Для шараговага гледача менавіта месца — адзін з галоўных крытэрыяў набыцця квіткоў на спектакль. Каб здзейсніць рытуальны жэст культурнага адпачынку, глядач выбірае «намоленае» (з гісторыяй і хутчэй за ўсё азначэннямі «нацыянальны» ды «акадэмічны») ці «праверанае» (некалькі разоў былі, спадабалася). Для такога выбару мае значэнне не толькі тое, што там пакажуць на сцэне, а яшчэ і наяўнасць буфету, магчымасці сфатаграфавацца ў прыгожым фае і г. д. Асаблівае значэнне мае адпаведнасць вядомай гледачу традыцыі паказу. Для некага істотнай перашкодай можа стаць ужо толькі надпіс на квітку «вольная рассадка».**

Для кансерватыўнай часткі прафесійнай тэатральнай супольнасці будынак — гэта сімвал трываласці, устойлівасці (праект сёння ёсць, а заўтра няма), прыналежнасці да пэўнай традыцыі і кола спецыялістаў з дыпломам аб профільнай вышэйшай адукацыі.

Аднак большасць значных для развіцця беларускага тэатра падзей сёння адбываецца якраз у тэатры праектным, што не мае сталай пляцоўкі (а часам нават і залы ды сцэны ў звыклым уяўленні). Падводзячы вынікі сезона 2016/2017, хочацца сфакусіраваць увагу менавіта на ім.

Гэта не значыць, што ў стацыянарным рэпертуарным тэатры не адбывалася нічога заўважнага. Да прыкладу, у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі Аляксандр Гарцуеў паставіў п'есу Віктара Марціновіча «Кар'ера доктара Рауса», дзе асоба і дзейнасць Францыска Скарыны паўстаюць не ў героіка-патрыятычнай традыцыі, характэрнай для гістарычнай плыні беларускага тэатра апошніх дзесяцігоддзяў, а трагікамічна, вострасацыяльна, метафізічна. У Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры Дзмітрый Багаслаўскі паставіў *«Dreamworks»* Івана Вырыпаева, асэнсаваўшы новы сацыяльны павеў часу — мужчына не заўсёды павінен быць моцным: герой у выкананні Андрэя Бібікава перажывае смерць жонкі ад анкалагічнай хваробы. Нарэшце напоўніцу на беларускай сцэне праявіўся імправізацыйны талент італьянскага рэжысёра Матэа Сп'яцы, які разам з акцёрамі Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек стварыў кранальную камедыю масак пра жыццесцвярджальнае існаванне ў доме састарэлых «Пансіён *"Belvedere"*». У абсалютна нязвыклай для Купалаўскага тэатра эстэтыцы Юра Дзівакоў увасобіў на камернай сцэне «Войцэка» Георга Бюхнера: салдат Войцэк узыходзіць на эстраду, а яго каханая Мары, здаецца, і руху не зробіць, каб не паказаць публіцы сваю сексуальнасць. Але ж вернемся да праектнага тэатра і набыткаў гэтага сезона, якія з'явіліся дзякуючы выключна ініцыятывам па-за тэатрам-будынкам.

Беларускі тэатр асвоіў новы ўзровень імерсіўнасці (уключанасці гледача ў дзеянне) і глядацкай свабоды. Незалежны тэатральны калектыў з Брэста «Крылы халопа» напрыканцы сезона прадставіў першы з шэрагу гарадскіх спектакляў цыкла *Brest Stories Guide*. Каб патрапіць на яго, гледачу патрэбна толькі скачаць мабільны дадатак на гаджэт з аперацыйнай сістэмай *Android* і ў любы зручны час выправіцца на шпацыр па брэсцкіх вуліцах. Першая частка праекта — дакументальная гісторыя брэсцкага гета, з тысяч вязняў якога выйшлі жывымі каля 20 чалавек. Аўдыясуправаджэнне са сведчанняў і дакументаў, створанае гукарэжысёрам Андрэем Багданавым, накладаецца на прастору, дзе адбываліся падзеі, час мінулы спалучаецца з часам цяперашнім, праўкаючы асаблівыя глядацкія перажыванні. Глядач, якога аддзяляе ад падзей больш за палову стагоддзя, уключаецца ў гарадскую катастрофу мінулага, перажывае яе, асэнсоўвае наступствы. І адначасова атрымлівае небывалую свабоду: на гэты спектакль не трэба набываць квіток, можна прыходзіць у любы час, любым складам (хоць аднаму) і самастойна канструяваць відовішча з пяці прапанаваных маршрутаў. Аўтар ідэі *Brest Stories Guide* рэжысёр Аксана Гайко плануе стварыць цыкл спектакляў, што асэнсуюць падзеі з гісторыі горада, якія засталіся без належнай увагі.

Адзінота гледача стала папулярнай тэмай мінулага сезона. Восенню, падчас II Фестывалю казак, тэатра і кніг «Казачны джэм» у Мінску, нарэшце прэзентавалі тэатральны аўтамат, створаны Святланай Бень і Лінай Хесінай. У аўтамаце (невялікай будцы, падобнай да фотакабіны) лялечны спектакль паказваюць толькі для аднаго гледача. У залежнасці ад яго выбару відовішча будзе доўжыцца ад адной да чатырох хвілін. Падчас дзеяння гледачу прапануюць вызначыцца (напрыклад, злым ці добрым будзе дракон напачатку, цукерку ці мараль вы хочаце атрымаць напрыканцы), тым самым стварыць сваю ўнікальную гісторыю з безлічы варыянтаў ды перажыць яе ў адзіноце. Такім чынам, імерсіўнасць у беларускім тэатры прасціраецца даволі шырока: ад стварэння гледачом забаўляльнага відовішча да ўключэння яго ў асэнсаванне гуманітарнай катастрофы.

Яшчэ адной яркай рысай мінулага сезона стаў зварот да літаратурнай класікі розных эпох і пошук новых шляхоў для яе пераасэнсавання. На пачатку сезона тая ж Святлана Бень адкрыла праграму *Belarus Open* Міжнароднага форуму тэатральнага мастацтва «*TEART*» незалежным тэатральна-музычным праектам «З жыцця насякомых», створаным паводле вершаў паэта-абэрыута Аляксандра Увядзенскага (рэжысура супольна з Дзмітрыем Багаслаўскім). Спектакль выкрышталізаваўся са шмат якіх даўніх цікавасцяў Святланы Бень. Фанаты гурта «Серебряная свадьба» памятаюць Бенькіну песеньку пра смажанага карася на вершы Алейнікава, тэатралы памятаюць заўсёдную яе ўвагу да свету маленькіх істот — напрыклад, спектакль «*Vermes*» («Чарвякі»), да крыўднага мала паказаны ў Беларусі. На гэтым падмурку і паўстае праект, аб'яднаўшы паэзію, музыку, анімацыю і тэатр лялек. «З жыцця насякомых» гуляе з гледачом, змяняючы маштабы светаадчування: вось ты глядзіш вачыма маленькай казуркі, якую можа пазбавіць жыцця падэшва чаравіка, а праз імгненне — апантанага вучонага, здольнага кіраваць мікрабіялагічнымі сусветамі.

А напрыканцы сезона Аляксандр Марчанка, захоплены эстэтыкай дакументальнага тэатра, нечакана звярнуўся да старажытнагрэчаскай трагедыі. Аднак захапленням не здрадзіў і сінтэзаваў «Антыгону» Сафокла, вербацім і *site-specific* у спектаклі «*Anti[gone]*», выпушчаны Цэнтрам візуальных і выканаўчых мастацтваў «АРТ Карпарэйшн». Ідэя спектакля ўзнікла у рэжысёра падчас культурнага семінара, накіраванага на аб'яднанне лідараў з розных сфер грамадскага жыцця. «*Anti[gone]*» разбурае межы і робіць акцэнт на адвечнасці чалавечага быцця. У адной з залаў Мемарыяльнага музея-майстэрні З. І. Азгура актрыса Дар'я Новік у адмысловай манеры чытання-спявання выконвае ўрыўкі сафоклаўскага тэксту. Кожны з іх прысвечаны пэўнай праблеме: братэрскія адносіны, маральны абавязак, уладная ўседазволенасць. Асаблівасць спектакля — удзел непрафесійных акцёраў. Урывак праўкуе ўзняцца і распавесці сваю гісторыю некага з імправізаванага хору вядомых беларусаў, рассаджанага ў зале. Апавядальнікі не перадаюць гісторыі акцёрам, а пераказваюць іх асабіста: двухразовая чэмпіёнка свету па муай-тай Марына Калініна, сацыёлаг Таццяна Вадалажская, арганізатар і прадзюсар фестывалю «Вольнае паветра» Уладзімір Шаблінскі, крэатыўны дырэктар *Talaka.by* Іван Вядзенін ды іншыя.

Па-ранейшаму ў фокусе ўвагі праектнага тэатра — сучасная беларуская драматургія. Сярод галоўных тэатральных ініцыятыў гэтага сезона — II Конкурс-фестываль сучаснай беларускай драматургіі *WriteBox* — незалежны праект, створаны тэатразнаўцам Вікторыяй Беляковай. Больш за ўсё ўражваюць і абнадзейваюць лічбы. Па-першае, парадкавы нумар: праект займеў працяг, не стаўся, нягледзячы на ўсе цяжкасці арганізацыі, адзінкавай падзеяй. Па-другое, колькасць п'ес, дасланых на конкурс, — 42, большасць з якіх напісаныя цягам года, што сведчыць пра інтэнсіўнасць драматургічнага працэсу. Дзясятку лепшых п'ес у маі агучылі на тэатральнай пляцоўцы Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў. Адной з самых папулярных тэм гэтым разам стала эміграцыя — ад'езд і вяртанне. Яе асэнсоўваюць у сваіх новых п'есах Віталь Каралёў («Маскаў Дрымін»), Максім Дасько («Лабрум»), Андрэй Іваноў («З вучылішча»). Заўважныя таксама і фармальныя пошукі драматургаў. Так, «Лабрум» Максіма Дасько асвойвае незвычайна вялікі для п'есы аб'ём і створаны ў апавядальнай манеры. Драматург сягае ў будучыню іператварае Беларусь у загадкавую тэрыторыю, куды вяртаецца Крыстаф Раўх, а ў мінулым Леанід Шаблоўскі... Аляксей Макейчык стварыў сваю п'есу «Галасы» з шасці маналогаў-псеўдавербацімаў, аб'яднаўшы іх толькі тэмай: органы пачуццяў чалавека.



Сцэна са спектакля «Антыгона».

Яшчэ адзін набытак сезона — Міжнародны тэатральны праект *HomoCosmos*. Яго аўтары Кацярына Саладуха і Дарыуш Язерскі ствараюць серыю спектакляў, што спрабуюць асэнсаваць цялеснасць чалавека і паразважаць над табу, звязанымі з ёй. Аднак стваральнікі *HomoCosmos* разглядаюць *Cosmos* не толькі як прастору метафарычную, але і як цалкам геаграфічную, намагаючыся глабалізаваць тэатральны свет, аб'яднаць творцаў з розных краін. Так, другі спектакль праекта «Бог казытання» спалучыў тэатральныя традыцыі сучасных беларускага і грузінскага тэатраў. П'есу беларускага драматурга Мікалая Рудкоўскага ўвасобіла грузінская пастановачная група: рэжысёр Давід Мгебрышвілі і мастак-пастаноўшчык Тамара Ахікян. Пастаноўка найперш вылучаецца тэмай (гісторыя кахання фотамастака-гея з безлічу адсылак да архетыповых літаратурных сюжэтаў) і мастацкім афармленнем (Тамара Ахікян асвоіла прастору былой сталоўкі, стварыўшы нават галерэю работ фотамастака, па якой гледачы могуць прайсціся пасля антракту).

Такім чынам, беларускі праектны тэатр у сезоне 2016/2017 асэнсоўвае імерсіўнасць, звяртаецца да класікі, па-ранейшаму заўзята цікавіцца беларускай драматургіяй і шукае нечаканыя спалучэнні (тэксту і прастораў, тэмы і сродкаў выразнасці і г.д.). Засталося дачакацца хіба што актыўнага двухбаковага руху: няхай бы часцей гледачы выходзілі з будынкаў, а ідэі, здабытыя па-за іх межамі, наадварот, — часцей увАходзілі.

**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ**

# Пытанні другога тура віктарыны «Мая Скарыніяна»

**1.** *Вядома, што ў Вільні Скарына друкаваў свае кнігі ў доме Якуба Бабіча. А кім быў гаспадар дома па родзе заняткаў?*

- пробашчам касцёла;
- кашталянам;
- бурмістрам;
- ваяводам.

**2.** *У якой навучальнай установе змешчана гэта фрэска з выявай Францыска Скарыны?*




- у Кракаўскім універсітэце;
- у Падуанскім універсітэце;
- у Пражскім універсітэце;
- у Віленскім універсітэце.

**3.** *Хто з беларускіх дзеячаў у 20-х гадах XX стагоддзя напісаў пра Скарыну наступнае: «Ваганне паміж Захадам і Усходам і шчырая няпрыхільнасць ні да аднаго, ні да другога з'яўляецца асноўнаю адзнакаю гісторыі беларускага народа. Прыклад Скарыны, аб якім да гэтай пары няведама, хто ён быў такі, ці каталік, ці праваслаўны, і пэўна, што і той і другі разам, адбівае гэтае з'явішча беларускага духу ў індывідуальнасьці, у душы нашага першага інтэлігэнта».*

- Ігнат Абдзіраловіч;
- Усевалад Ігнатоўскі;
- Уладзімір Пічэта;
- Язэп Воўк-Левановіч.

**4.** *Праз 350 гадоў пасля выдання, у 1867 годзе, пражскі «Псалтыр» Скарыны быў куплены рускім аматарам старадрукаў Хлудавым, і гэта дало падставу рускім навукоўцам паглядзець на асобу Скарыны і яго дзейнасць з новай цікавасцю. А дзе купіў Хлудаў такую рэдкую кнігу?*

- у мешчаніна з Полацка;
- на Ніжагародскім кірмашы;
- у селяніна пад Вільняй;
- на кніжным развале ў Маскве.

**5.** *Адзін з томікаў Скарынавых кніг, якія захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, асабліва цікавы: адразу некалькі выданняў першадрукара сплецены ў адзін пераплёт. Што гэта за выданне?*

- Пяцікніжжа Майсеева;
- Кнігі пракрокаў;
- Чацвераевангелле;
- Кніга Царстваў.

**6.** *У якім годзе ў Беларусі шырока адзначалі 400-годдзе беларускага кнігадрукавання?*

- у 1922;
- у 1917;
- у 1925;
- у 1927.

**7.** *У якім беларускім горадзе вышэйшая навучальная установа носіць імя Францыска Скарыны?*

- у Полацку;
- у Гомелі;
- у Гродне;
- у Баранавічах.

**8.** *На якой плошчы ў Полацку стаіць помнік Францыску Скарыну?*

- Цэнтральнай;
- Карла Маркса;
- Леніна;
- Францыска Скарыны.

**9.** *А дзе стаіць гэты помнік?*




- у Празе;
- у Полацку;
- у Вільні;
- у Мінску.

**10.** *Пытанне ад Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.*

*Калі і дзе ўзнікла другая пасля Скарынавай друкарня ў Вялікім Княстве Літоўскім?*

Адказы дасылайце на паштовы адрас рэдакцыі з пазнакай «Скарыніяна» або на *e-mail skaryna@zviazda.by*.

***Праверце сябе!***

## Культурны ракурс

**Напрыканцы верасня 2007 года ў Мінску, у новым сталічным мікрараёне Міхалова, з'явілася новая вуліца, якой надалі імя народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля. У прыгожых сучасных дамах пасялілася шмат маладых сем'яў з дзецьмі. На пытанне «А хто такі Янка Брыль?» іх бацькі абавязкова адкажуць, што гэта знакаміты беларускі пісьменнік. І, магчыма, для многіх дзяўчынак і хлопчыкаў назва вуліцы стане штуршком для знаёмства з беларускай літаратурай наогул, для паглыблення ў свет роднай мовы.**

**А менш чым праз год, 27 мая 2008-га, у беларускай сталіцы на доме № 77 па праспекце Машэрава была адкрыта мемарыяльная дошка Янку Брылю. Аўтар выявы — скульптар Валянцін Занковіч. Бронзавая дошка выканана ў выглядзе раскрытага тома кнігі з разгорнутым на тры чвэрці партрэтам усмешлівага пісьменніка. На дошцы змешчаны тэкст: «У гэтым доме жыў народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль» і стужачка з малюнкам беларускага арнаменту.**

**Скульптар адзначаў, што з задавальненнем працаваў «над выразным вобразам гэтага сціплага, абаяльнага і мудрага чалавека ды грамадзяніна». Дарэчы, Валянцін Занковіч браў удзел у стварэнні такіх помнікаў, як мемарыяльныя комплексы «Кацюша» (1967) у Оршы, «Хатынь» (1968), «Брэсцкая крэпасць-герой» (1973), помнікаў «Мінск — горад-герой» (1985), «Партызанам Палесся» ў Пінску (2002), «Беларусь партызанская» (2005) у Мінску.**

**Алена ЛАРЧУК**




*Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
16 +
Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»
Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК

Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by
Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова
Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка
Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк
3.08.2017 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 1530.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013
Заказ — 2989
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


